№№91–92
(3630–3631)

12 чэрвеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Ад чаго можна адмовіцца, а ад чаго нельга

***Бутэлька самай таннай гарэлкі каштуе 23.700 рублёў.***
***Кілаграм варанай каўбасы "Прыма" — 41.500 рублёў.***
***Калі вы не вып'еце бутэльку гарэлкі — захаваеце здароўе.***
***Можна адмовіцца і ад каўбасы — зараз ідзе Пятроў пост.***
***Нельга толькі адмаўляцца ад духоўнага — ад "Народнай Волі".***
***Тым больш што кошт месячнай падпіскі — усяго 19.000 рублёў.***
***Не спазніцеся: падпіска на II паўгоддзе — толькі да 27 чэрвеня.***

*Вы — з «Народнай Воляй»,*
*«Народная Воля» — з Вамі!*

ПО СЛУЧАЮ...

## Что мы забыли в Джакарте?

Министр иностранных дел Сергей Мартынов отправился с визитами в Индонезию и Лаос.

По словам пресс-секретаря белорусского МИД Андрея Савиных, Сергей Мартынов встретится с председателем торгово-промышленной палаты Индонезии для обсуждения "актуальных направлений торгово-экономического взаимодействия". Планируется проведение двусторонней встречи с генеральным секретарем Ассоциации государств Юго-Восточной Азии для обсуждения возможностей и перспектив расширения сотрудничества Беларуси. В ходе визита запланированы встречи главы белорусского внешнеполитического ведомства с президентом Лаоса, главой МИД, министрами промышленности и торговли, науки и технологий "для обсуждения вопросов политического, торгово-экономического и научно-технического сотрудничества", — отметил официальный представитель МИД.

У экспертов, однако, последние маршруты визитов главы внешнеполитического ведомства вызывают большие вопросы. Дело в том, что Тихоокеанский регион как раз считается регионом, где белорусам мало что светит. Слишком далеко, слишком затратно, слишком разные ориентиры у экономик. Между Минском и Джакартой почти 10 тысяч километров, другой конец света. Даже на самолете лететь около 12 часов. Понятно, что в таких условиях для взаимной торговли должно быть предложено нечто абсолютно уникальное, чтобы поставки оказались выгодными.

С той же Индонезией дипломатические отношения у нас были установлены еще в 1993 году, но торгово-экономическое сотрудничество никогда больших успехов не имело. Годовой товарооборот в 60—70 миллионов долларов, традиционный экспорт — калийные удобрения и шины, импорт — каучук, пальмовое и кокосовое масло, фрукты, орехи... Существенно расширить эту номенклатуру, по мнению многих специалистов, просто невозможно. В то же время перспективное европейское сотрудничество заморожено. У главы внешнеполитического ведомства Беларуси в этом году еще не было ни одного визита в европейском направлении. И это о многом говорит.

**Игорь МОРОЗОВ.**

### В ТЕМУ

Все помнят, сколько было шума с проектом по поставкам в Беларусь венесуэльской нефти, сколько высоких чиновников высказывались в поддержку этого проекта и обосновывали, насколько он важен для нашей страны. Не прошло, как говорится, и пару лет...

Беларусь может отказаться от импорта нефти из Венесуэлы. Об этом сообщил журналистам заместитель премьер-министра Владимир Семашко. По его теперешним словам, "нет экономического резона эту нефть импортировать". Вместе с тем окончательное решение по этому вопросу еще не принято. "Последнее слово — за президентом", — сказал Владимир Семашко.

Сколько сил, людей, денег было затрачено на проект, который независимые экономисты изначально называли авантюрой! Кто подсчитает? Кто за это ответит?

НУ І НУ!




## Прыйшлі за вамі

Грамадскія актывісты, якіх у рэжыме нон-стоп трымалі ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна, пачынаюць выходзіць на волю. Такім чынам, з'явіліся першыя сведчанні таго, як рэалізуецца новая тактыка міліцыі, калі чалавек, ледзь адбыўшы адны"суткі", адразу трапляе пад новы арышт.

На сёлетнім "Чарнобыльскім шляху" 25-гадовы Іван Амельчанка з самаробным плакатам стаў каля службоўца ў цывільным, які здымаў акцыю на відэа. Жарт маладога чалавека хутка зрабіўся хітом інтэрнэту, аднак міліцыянерам слова "мусорок" не спадабалася.

Іван сам прыйшоў у Ленінскі РАУС, дзе на яго склалі пратакол паводле артыкула "Дробнае хуліганства". У судзе Амельчанка настойваў на тым, што насамрэч на плакаце надпіс быў па-англійску: "My cop ok", што можна перакласці як "мой паліцэйскі — у парадку". Але ў судзе не паверылі тлумачэнням і асудзілі хлопца на 15 сутак арышту. 30 мая Іван Амельчанка павінен быў выйсці з ізалятара, аднак гэтага не адбылося. Яго адразу ж завезлі ў Маскоўскі РАУС, дзе склалі новы пратакол... за дробнае хуліганства.

"Калі я выходзіў з ізалятара 30 мая, то праз вокны ўбачыў, што стаіць "уазік", у якім сядзіць спецназавец і двое ў цывільным. На выхадзе я запытаўся ў супрацоўніка ў цывільным: "Вы за мной?" — "За вамі". Яшчэ спытаўся, у якім хоць месцы я матам лаяўся. А той кажа: "Прыедзеш у РАУС і даведаешся", — расказаў Іван.

Вось так. Проста, нахабна, брутальна... І яшчэ кажуць, што ў нас дэмакратыя?! Якая — паглядзіце на карыкатуру самадзейнага мастака з Турава Жыткавіцкага раёна.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

СІТУАЦЫЯ

## Улада ад Бога і ўлада ад чорта

Сёння ў Гродне павінен адбыцца суд над іерэем храма Адсячэння галавы Іаана Хрысціцеля Мікалаем Гайдуком за адмову прайсці працэдуру дактыласкапіі. Маладога святара абвінавачваюць у непадпарадкаванні службовым асобам падчас выканання імі сваіх абавязкаў.





Сам айцец Мікалай не лічыць сябе вінаватым. Ён сцвярджае, што пратакол супрацоўнікі міліцыі склалі завочна з відавочнымі парушэннямі заканадаўства. Гродзенскія праваабаронцы ў сваю чаргу зазначаюць, што ў мясцовых міліцыянераў склалася практыка абходу кватэр, каб забяспечыць яўку на абавязковую дактыласкапічную рэгістрацыю. Калі ўчастковы інспектар не саспеў Мікалая Гайдука дома, то папросту склаў на яго пратакол за нібыта адмову зняць адбіткі пальцаў. Сведкам па справе стаў яшчэ адзін супрацоўнік міліцыі. У пратаколе напісана, што сам айцец Мікалай адмовіўся паставіць свой подпіс.

Мікалай Гайдук патлумачыў "Народнай Волі": "Афіцыйнай адмовы я не даваў. Міліцыянеры прыйшлі на кватэру бабулі маёй жонкі, дзе я прапісаны. Мне яны патэлефанавалі, але я адказаў, што пакуль заняты і не магу з імі сустрэцца. І ўсё. Не ведаю, чым яны кіраваліся. Можа, нейкія цёмныя сілы на іх ціснулі? Можа, нейкія тэрміны былі ім пазначаны? У любым выпадку я не бачыў у твар ніводнага з іх. Калі яны прыйдуць у суд, то я нават не змагу іх апазнаць. Больш за ўсё мяне збянтэжыў запіс аб тым, што я адмовіўся падпісаць пратакол. Як я мог падпісаць пратакол, якога ў вочы не бачыў? Карацей, на суд я пайду без адваката, бо не лічу, што ён патрэбны. Я не зрабіў нічога супрацьпраўнага".

Справа Мікалая Гайдука трэцяя па ліку супраць святароў Гродзенскай епархіі.

Летась епархіяльны савет Гродзенскай епархіі на гэты конт прыняў спецыяльную заяву. У ёй гаворыцца: "Што тычыцца дактыласкапіі то, па-першае, тут прысутнічае веравучыцельны аспект. Царква памятае прарочыя засцярогі аб апошніх часах і лёсах свету, калі адным са знакаў прышэсця Антыхрыста стане нанясенне пячатак на лоб і на руку: "І ён (звер) зробіць тое, што ўсім — малым і вялікім, багатым і жабракам, свабодным і рабам, — пакладзена будзе кляймо на правую руку іх і на лоб іхні" (Адкр.13,16)".

Пры гэтым у епархіяльным савеце падкрэслілі, што ніхто наўмысна не будзе праводзіць паралелі і рабіць радыкальныя высновы, але вернікі могуць глядзець на працэдуру дактыласкапіі з рэлігійнага і эсхаталагічнага пунктаў гледжання. У любым выпадку праблема выканання рашэння аб абавязковай дактыласкапіі выклікала напружанне ў царкоўных колах. Прадстаўнікі праваслаўнай царквы некалькі разоў звярталіся да ўлад з просьбай распрацаваць альтэрнатыўную сістэму ідэнтыфікацыі грамадзян. Пакуль гэтыя звароты ігнаруюцца.

Што да пазіцыі маладога святара Мікалая Гайдука, то ён асабіста пакуль канчаткова не вызначыўся ў гэтым пытанні. "Я яшчэ хачу параіцца на гэты конт. Цалкам верагодна, што я прайду працэдуру дактыласкапіі. Я ж адмоўнага адказу не даваў. Але не трэба дзейнічаць такімі метадамі. Я супраць гвалту ў любым выпадку", — патлумачыў ён "Народнай Волі".

Нагадаем, што адбіткі пальцаў пачалі браць ва ўсіх ваеннаабавязаных грамадзян пасля тэракта, які адбыўся ўначы на 4 ліпеня 2008 года падчас святочнага канцэрта ў беларускай сталіцы. Людзей выклікалі ў ваенкаматы і там масава праводзілі дактыласкапію. Пагоня за планам не раз прыводзіла да трагічных выпадкаў. Яшчэ не забыты апошні выпадак, які адбыўся з вернікам-пратэстантам Піліпам Кірдуном. Хлопца забралі ў міліцыю для дактыласкапіі, а праз суткі ён з пабоямі апынуўся ў судзе...

Святар Мікалай Гайдук прызнаўся, што не мае вялікага значэння, выйграе ён справу ці не, бо не здзейсніў ніякага правапарушэння. Для яго галоўнае пытанне ў тым, ці прыцягнуць да адказнасці тых міліцыянераў, якія ў пагоні за паказчыкамі складаюць "завочныя пратаколы" і хлусліва сведчаць, пэцкаючы форму.

**Любоў ЛУНЁВА.**

З НАГОДЫ

## Сэрца радуецца... і адначасова плакаць хочацца

Чэмпіянат Еўропы па футболе... Сэрца радуецца, калі глядзіш на запоўненыя трыбуны, на балельшчыкаў, якім футбалісты штодзённа дораць сапраўднае свята. Падкрэслю — сапраўднае свята!



І плакаць хочацца ад таго, што адбываецца ў нас. 7 чэрвеня, за дзень да пачатку Еўра-2012, паглядзеў па тэлевізары таварыскі матч футбольных зборных Беларусі і Літвы, што праходзіў на сталічным стадыёне "Дынама". Прабачце мяне, але гэта не гульня, а нейкі здзек. Аднойчы пачытаў справаздачу з чарговай гульні беларускай каманды, у якой спартыўны журналіст зрабіў вобразнае параўнанне: маўляў, іграки хадзілі па полі, як халмагорскія каровы. Дык вось такое параўнанне вельмі недарэчнае! Халмагорскія каровы — цудоўнейшая парода, чаго не скажаш пра нашых футбалістаў, якія ледзь не засынаюць падчас гульні.



Дзе гэта бачна, каб на матч нацыянальнай зборнай (няхай ён і таварыскі) на стадыён прыходзіла жменька балельшчыкаў? *(Згодна з пратаколам, на матчы зборных Беларусі і Літвы прысутнічала 3 тысячы чалавек. Аб гэтым сведчыць і ніжні здымак. —* **Рэд.**) Для каго ўвогуле гуляюць футбалісты? Для сябе ці для балельшчыкаў? Калі трыбуны пустыя, то які сэнс тады ў такіх гульнях? Ды футбалісты, трэнеры і кіраўніцтва федэрацыі з сораму павінны былі згарэць, што ад іх адвярнуліся балельшчыкі! Грошы ж усе атрымліваюць і немалыя. З нашай кішэні — падаткаплацельшчыкаў. А дзе аддача? Раней федэрацыю футбола ўзначальваў кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Генадзь Нявыглас, зараз — віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Ім не сорамна перад балельшчыкамі? Магчыма, яны не памятаюць, як у свой час аматары футбола вогнішчы палілі ноччу, каб зранку набыць білет на шараговы матч з удзелам сталічнай каманды, але гэта добра памятаю я. Людзі ішлі на свята. Ішлі, каб паглядзець на гульню Мустыгіна, Адамава, Малафеева, Пракапенкі...

А на каго мне глядзець сёння? На сумныя твары і такую ж гульню? Таму на такі футбол балельшчыкі не ходзяць і ніколі не пойдуць. Лепш я пагляджу па тэлевізары матчы чэмпіянату Еўропы, дзе футбалісты дораць аматарам футбола САПРАЎДНАЕ свята!

**Віталь ПЯСЕЦКІ, балельшчык.**

У СОСЕДЕЙ

## Белорусские сценарии скопировали в Москве

*Новости понедельника, 11 июня, в России начинались сообщениями об обысках.*

Милиционеры пришли к наиболее активным лидерам российской оппозиции — Алексею Навальному, Борису Немцову, Сергею Удальцову, Ксении Собчак...

В ходе обысков изымались все носители информации, мобильные телефоны, видеотехника. По сообщению агентства "Интерфакс", в квартире у Ксении Собчак во время обыска были найдены 1,5 миллиона евро наличными.

Напомним, что сегодня, 12 июня, в Москве должна пройти масштабная акция оппозиции "Марш миллионов", посвященная Дню России.

АКТУАЛЬНО

## Эксперт: если продолжится повышение зарплат и снижение ставки рефинансирования, увеличится спрос на иностранную валюту

Последние несколько недель растет курс доллара. Месяц назад доллар стоил 8090 белорусских рублей, а вчера "Беларусбанк" продавал доллары уже по 8500 за один доллар. Самое выгодное предложение наблюдалось только в трех банках столицы — "БелСвиссБанке", "БТА Банке" и БПС—Сбербанке: там доллары можно было купить по 8330 рублей.

Еще в мае белорусы бросились снимать рублевые вклады и переводить их в валюту. В некоторых обменниках выстроились очереди из желающих купить доллары. Правда, такого валютного ажиотажа, который мы пережили в прошлом году, пока, к счастью, не наблюдается. Но вопрос "Что будет с долларом?" остается актуальным для многих белорусов.

Прокомментировать ситуацию мы попросили аналитика Исследовательской группы BusinessForecast.by **Александра МУХУ**.

— Пока ничего страшного на валютном рынке не происходит, — высказывает свое мнение эксперт. — Некоторое колебание курса доллара носит локальный характер и связано со значительным укреплением доллара к евро и другим валютам на мировых рынках. Хотя тревожные звоночки в мае прозвучали.

В этом месяце на внутреннем валютном рынке белорусские субъекты хозяйствования продали валюты больше, чем купили, — всего лишь на 61,1 млн долларов. Показатель прибыли снизился до этой цифры впервые с начала года. Население хоть и продало валюты больше, чем купило (я это связываю с тем, что белорусы обменивают валюту, которую им присылают родственники, выехавшие на заработки за рубеж), на рынке безналичных расчетов картина была иной.

В мае на чистой основе белорусы купили валюты в безналичном порядке на 120,1 млн долларов больше, чем продали. Как я понимаю, население переводит рублевые депозиты в валютные. И если проследить, как белорусы покупали валюту с начала года, то получается, что за май купили практически столько же, сколько за весь период с января по апрель.

На мой взгляд, сейчас Нацбанку надо воздержаться от дальнейшего снижения ставки рефинансирования, а в бюджетной сфере внимательно следить за ростом средней зарплаты. 400 долларов — это равновесная отметка на ближайшие несколько месяцев, дальше которой отрываться нежелательно. Если же в стране продолжится повышение зарплат и уменьшение ставки рефинансирования, спрос на валюту будет увеличиваться, и это может привести к снижению курса рубля. Но я думаю, что прошлогодней ситуации, когда мы переживали стремительный рост курса доллара и евро на фоне дефицита валюты, повториться не должно. В текущем году, в отличие от прошлого, Нацбанк не выдает эмиссионных кредитов и не участвует в капитале субъектов хозяйствования.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

*Надежда Ермакова, глава Нацбанка Беларуси:*

**«Не стоит волноваться за рубль»**

— Наш рубль, наша экономика не дает оснований думать, что национальная валюта обесценится, — заявила на прошлой неделе Надежда Ермакова. — Мы торгуем с внешним миром в основном в трех валютах — доллар, евро и российский рубль. И основной удельный вес расчетов у нас идет по российскому рублю. Поэтому если так взять, то мы в своей валюте ближе по отношению к России. Я считаю, что даже если евро упадет, нам не стоит волноваться за рубль.

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

ИЗ ДНЕВНИКА

*Семен БУКЧИН*



# По ходу дела

***

Меня всегда умиляют вопросы в интернет-комментах: а что делать? да подскажите же, что же, наконец, делать?

И столько истерики при этом! В советское время наш человек небось ни о чем таком не спрашивал. Ходил себе на работу, после работы пиво пил, как все люди.

А тут вдруг возжаждал действия!

Да ничего не нужно делать! Просто быть порядочным человеком — это уже немало по нашим временам.

Впрочем, что легче раздачи мудрых советов?

Вот и я в недавней заметке "Делать нужно дело, господа!" поддался этому искушению. Написал, что "путь один — только жесткий принципиальный диалог с властью".

А постоянный читатель "Народной Воли" Михась Дубенчуков оспорил это утверждение: "Ни на какой диалог власть не пойдет... да и нет такой влиятельной силы, с которой она бы могла считаться" ("НВ", 5 июня с.г.).

Так ведь в этом же и вся соль! В том, что нет такой влиятельной силы! А представьте себе, уважаемый читатель, ситуацию: начинается всеобщая белорусская стачка, стоят заводы, бастует транспорт, отменены занятия в вузах... Ну и что? Пошла бы власть в такой ситуации на диалог с обществом? А куда бы она делась! Конечно, пошла бы на переговоры, как идут на них власти в Варшаве, Будапеште, Лондоне, Париже, Риме, где сильны корпоративные, гражданские, профсоюзные традиции.

Но у нас нет "влиятельной силы", способной организовать протест такой мощи, потому нет и диалога. Поэтому цены могут подниматься в пять, десять, двадцать раз, а белорус будет молчать. Попробуй в Германии на три процента поднять цены на продукты — такое в ответ получишь! Полстраны выйдет на улицы...

И, конечно, его, этот диалог, уж никак не заменить предлагаемыми М.Дубенчуковым обращениями Бородача, Некляева, Лебедько и Коласа в Генеральную прокуратуру с "*вопросом о сохранении конституционных норм в нашей стране*". Вот уж чего не боится наша власть и чего откровенно не замечает, так это всевозможных обращений и жалоб в госорганы. А уж по части конституционных нарушений, то тут и вовсе следует молчать. Поскольку нет у нас таких нарушений! Нет и точка!

Поэтому вынужден повторить: нет у нас общества, нет национальной сплоченности, потому и силы такой, чтобы могла влиять на власть, нет.

***

Говорят, что у нас наверху неграмотные в основном люди. Лично я так не считаю. Вот недавно вычитал у Аристотеля о мерах, способствующих сохранению тирании.

Древний грек считал необходимым для тиранов:

*Избавляться от людей, возвышающихся над общим уровнем, т.е. мыслящих личностей.*

*Строго контролировать все, что возбуждает в гражданах предприимчивость и взаимное доверие.*

*Обязательный запрет обществ, в которых может осуществляться обмен мыслями.*

*Иметь соответствующий штат соглядатаев и провокаторов, сеющих раздоры и вражду между гражданами.*

*Ну и чтобы подданные были заняты каждодневной работой и не имели времени для лишних разговоров.*

А вы говорите: начальство у нас необразованное. Опять, выходит, клевета. Читают, читают наши верхи Аристотеля. Можно даже сказать, с особым усердием...

***

По статистике ЮНЕСКО, каждые две недели на земле умирает один язык. А их не так много, между прочим, языков — всего около семи тысяч осталось. Со смертью языка приходит перерождение, а точнее, духовная смерть народа, выражающаяся в утрате национальной идентичности. А ни с кем, ни с какой культурной традицией не идентифицирующий себя человек это уже не совсем человек. Это больше машина, способная выполнять самые дикие приказы. Она будет бить, крушить вокруг себя. Она ничего не создаст полезного, умного, творческого. Она заряжена только на разрушение.

Кому-то покажется: подумаешь, язык умер... А на самом деле за этим фактом трагедия почище шекспировской. Умирание народа... Как не вспомнить Богушевичево — "каб не ўмёрлі"...

Не являемся ли мы в Беларуси свидетелями последствий такого умирания?

Толерантный белорус научился в последнее время махать резиновой дубинкой, лжесвидетельствовать в милиции против своих соотечественников. Предал забвению Куропаты, зато "линию Сталина" построил.

Впрочем, в 30-е годы минувшего столетия и хорошо знавшие белорусский язык писали доносы на своих соседей и друзей. Но не тогда ли и началась смерть языка?

***

Считаю, что в Беларуси совершенно незаслуженно прошло незамеченным такое грандиозное событие, как переизбрание президента Франции. Франсуа Олланд сменил Николя Саркози. Восприняли как норму. Нет, вы представляете себе, чтобы у нас было, если бы кто-то сменил Лукашенко? Это ведь подобно горному обвалу. Это государственная катастрофа! Рушится весь выстроенный долгими годами миропорядок... И куда самому деваться?

Саркози хорошо. Поехал с красоткой-женой на курорт в Марокко и в ус не дует. А главное — не боится, собака, ничего. Никто ему не угрожает ни судебными, ни прочими преследованиями.

А здесь, в этой чертовой Беларуси, только отдай власть... Разорвут на куски... Вот и Путин, между прочим, достойный ученик и преемник Ельцина, абсолютно правильно сделал — договорился обо всем заранее с Медведевым и вернулся в Кремль. То есть власть по сути не отдал. Так, на несколько лет поиграться под контролем разрешил близкому товарищу...

Есть все основания предполагать, что за то, чтобы власть максимально долго находилась в одних и тех же твердых руках, был поднят тост на встрече в Заславле. При этом белорусский правитель, возможно, дружески погрозил российскому коллеге пальцем. Это они там, на Западе, могут себе позволить демократические игры. А у нас все иначе. Менталитет у нашего народа другой. Ну не переносит он ситуацию с быстро меняющимися руководителями. От этого ему, народу, плохо становится. Привыкает он к одному лицу, к тому, что и как это лицо говорит и делает... Вот ведь и к "американке" и к "Окрестина" привык. И действительно, как уверенно эти новые и важнейшие понятия нашего государственного быта вошли в жизнь. Зачем же менять уже устоявшееся? Всякие перемены только пугают простой народ. А уж смена самого главного начальника, вождя — для нашего народа и в самом деле катастрофа.

ПРАЕКТ ЗАКОНА

## *Спецсуды для спецасоб?*

*Падрыхтаваны праект закона, у адпаведнасці з якім справы памежнікаў, мытнікаў і іншых людзей у пагонах плануецца перадаць ваенным судам.*

Да гэтага часу ваенныя суды разглядалі толькі справы аб злачынствах вайскоўцаў і грамадзянскія справы па спрэчках, звязаных з ваеннай службай. Грамадскасць, як правіла, даведвалася толькі пра прыгавор, паколькі суды праходзілі часцей за ўсё ў закрытым рэжыме. А вось справы карупцыянераў з сістэмы МУС, мытні, МНС і да т.п. мелі куды большы рэзананс, бо іх разглядалі звычайныя суды. Падобна на тое, што такая практыка дажывае апошнія месяцы.

Згодна з законапраектам, пад катэгорыі спраў, якія хочуць перадаць ваенным судам, падпадаюць не толькі крымінальныя справы па злачынствах, здзейсненых асобамі начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, органаў фінансавых расследаванняў, органаў і падраздзяленняў МНС, службовымі асобамі Следчага камітэта, пракуратуры, мытных органаў, але таксама грамадзянскія спрэчкі з іх удзелам.

Разгляд спраў спецасоб можа пачацца ў ваенных судах вельмі хутка. Дэпутаты разлічваюць прыняць законапраект у другім чытанні яшчэ на гэтай сесіі, якая заканчвае сваю працу 3 ліпеня.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Якія лекі можна будзе набыць без рэцэпта?*

*Як мы раней паведамлялі, прапанова Міністэрства аховы здароўя значна ўзмацніць парадак продажу лекаў і перавесці многія з іх у лік тых, на набыццё якіх патрабуецца рэцэпт, не прайшла.*

Па-ранейшаму без рэцэпта будуць адпускацца лекавыя сродкі, якія выкарыстоўваюцца для лячэння найбольш распаўсюджаных захворванняў:

— страўніка і печані (альмагелі, гастал, мезім, панкрэацін, фестал, эсэнцыяльныя прэпараты і інш.);

— сардэчна-сасудзістых захворванняў (атэналол, валідол, эналапрыл і інш.)

— абязбольвальныя, супрацьзапаленчыя, супрацьрэўматычныя сродкі, прэпараты, якія прымяняюцца пры захворваннях касцёва-мышачнай сістэмы (аспірын, дыклафенак, німесулід, парацэтамол, тэрафлекс і інш.)

— асобныя антыбіётыкі, супрацьвірусныя, процімікробныя, імунамадулюючыя і іншыя прэпараты (ампіцылін, арпетол, ацыклавір, грапрынасін, даксіцыклін, эрытраміцін і інш.).

Толькі па рэцэптах будуць адпускацца псіхатропныя лекі, якія прымяняюцца для лячэння эпілепсіі, псіхалагічнай або фізічнай залежнасці ад розных рэчываў, антыбіётыкі 3-га і 4-га пакаленняў, інсуліны, гармоны, анаболікі, антыарытмічныя сродкі, лекавыя прэпараты для лячэння анкалагічных захворванняў.

Пералік лекавых сродкаў, што рэалізуюцца без рэцэпта, павінен быць размешчаны для ўсеагульнага доступу ва ўсіх арганізацыях аховы здароўя і аптэчнай сеткі.

АФІЦЫЙНА

## *З крэдытамі прыспешваюць*

У Беларусі ўдвая скарочаны тэрмін пагашэння льготных крэдытаў на жыллё для сельскіх жыхароў.

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, згодна з якім прадастаўленне грамадзянам, якія пражываюць і працуюць у сельскай мясцовасці, ільготных крэдытаў будзе ажыццяўляцца на тэрмін 20 гадоў пад працэнтную стаўку, роўную 10% стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка, якая дзейнічае на момант выдачы крэдыту.

Нагадаем, што раней жыхарам сельскай мясцовасці крэдыты выдавалі на 40 гадоў і пад 3 працэнты.

КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ

## *Ці будуць далей зніжацца стаўкі па крэдытах на жыллё?*

ААТ "ААБ Беларусбанк" паведаміла пра зніжэнне з 11 чэрвеня працэнтных ставак па крэдытах на будаўніцтва (рэканструкцыю) і набыццё жылых памяшканняў.

Так, для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, стаўка зніжаецца з 30% да 25% гадавых. Для шматдзетных сем'яў — з 21% да 20% гадавых, а для для грамадзян, якія не маюць патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў, — са стаўкі рэфінансавання Нацбанка + 8 працэнтных пунктаў (42%) да стаўкі рэфінансавання НБ РБ + 3 п.п. (37%).

— *Такое нязначнае зніжэнне стаўкі істотнага значэння для тых, хто збіраецца будавацца, не мае*, — адзначае эканаміст Леў Марголін. — *Бо, па вялікім рахунку, праблему не вырашае. Гэта крэдыт на гады, цяжка выплачваць пазыку пад такія працэнты... Але, думаю, працэс зніжэння працэнтных ставак на жыллёвыя крэдыты будзе працягвацца, хоць і не так хутка. Як мне падаецца, урад будзе ціснуць на Нацыянальны банк у гэтым пытанні.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

*Михаил ПАСТУХОВ*

*(Начало разговора в "Народной Воле" за 5 июня с.г.)*



# 2. Нужна ли Беларуси президентская власть?

Это еще один глобальный вопрос, который предстоит решить демократическим силам при определении дальнейшего пути.

Следует признать, что первый президент Республики Беларусь скомпрометировал институт президентской власти и заставил задуматься о целесообразности его сохранения.

Если мы вернемся к Конституции 1994 года, то у президента как главы государства и исполнительной власти останется немало полномочий. И никто не может гарантировать, что новый лидер не будет злоупотреблять своей властью. Возможностей "порулить" государством у этого человека будет более чем достаточно.

Вот только некоторые из полномочий, которые дает президенту статья 100 Конституции: "1) принимает меры по охране суверенитета, национальной безопасности и территориальной целостности Республики Беларусь, обеспечению политической и экономической стабильности, соблюдению прав и свобод граждан; 2) руководит системой органов исполнительной власти и обеспечивает их взаимодействие с представительными органами; 3) создает и упраздняет министерства, государственные комитеты и другие центральные органы управления Республики Беларусь; 4) с согласия Верховного Совета назначает и освобождает от должности Премьер-министра, его заместителей, министров иностранных дел, финансов, обороны, внутренних дел, Председателя Комитета государственной безопасности; назначает и освобождает от должности других членов Кабинета Министров; принимает отставку указанных в этом пункте лиц; 5) представляет Верховному Совету кандидатуры для избрания на должности Председателя Конституционного Суда, Председателя Верховного Суда, Председателя Высшего Хозяйственного Суда, Председателя Правления Национального банка".

Весь список полномочий президента страны излагается в 26 пунктах. Причем последний пункт завершается формулировкой: "осуществляет иные полномочия, возложенные на него Конституцией и законами".

Не следует забывать, что, в соответствии с Конституцией 1994 года, президент является Главнокомандующим Вооруженными силами, возглавляет Совет безопасности Республики Беларусь, представляет государство в отношениях с другими странами и международными организациями. При этом он не вправе делегировать каким-либо органам либо должностным лицам свои полномочия как главы государства.

Не слишком ли много "хлопот-обязанностей" для одного человека? Не опасна ли такая власть для общества и государства? И главное — для чего нужно вверять "царские" полномочия одному человеку?

Пока есть время для обсуждения этих вопросов. Решение по ним надо принимать сейчас, когда еще не выстроилась очередь претендентов на главную должность в государственном аппарате.

## Какие есть варианты по поводу президентской власти?

В принципе, можно выделить три основных варианта в развитии института президентской власти в Беларуси:

1) сохранить полномочия президента в соответствии с Конституцией 1994 года;

2) "урезать" полномочия президента и поставить его под контроль парламента;

3) упразднить должность президента, возложив функции главы государства на председателя (спикера) парламента.

**Первый вариант,** при котором сохраняются "сильные" полномочия президента, **следует отвергнуть решительно и безоговорочно**, как бы этого ни хотелось отдельным харизматическим личностям.

Очевидно, что вверять большую власть в руки одного человека, даже самого хорошего, опасно для общества. Рано или поздно президентом станет человек, который снова захочет навести "порядок" и "перетряхнуть" кадры.

**Второй вариант** предполагает ослабление института президентской власти с одновременным усилением роли парламента и правительства. Примерами могут служить Германия, Италия, Венгрия, Чехия, Латвия, Эстония, где власть президента ограничивается выполнением в основном незначительных полномочий. Например, президент подписывает законы, награждает героев, представляет страну в отношениях с другими государствами и международными организациями, предлагает парламенту кандидатуры на должности главы правительства, руководителей высших судов, других должностных лиц. В этих странах президент не вправе издавать акты нормативного характера (типа указов и декретов). Деятельность президента находится под контролем парламента. При наличии к тому оснований может быть поставлен вопрос об отстранении президента от должности.

Обычно должность президента замещается путем выборов. В одних странах президент избирается путем всеобщих выборов (например, в Польше, Литве), в других — избирается парламентом (Молдова, Латвия, Эстония) или специальным представительным органом, участниками которого являются депутаты парламента и представители регионов (Германия, Италия).

## Как может выглядеть модель «слабого» президента?

Прежде чем ответить на этот вопрос, надо определиться, будет ли президент избираться народом, парламентом или иным представительным органом.

Если президент будет избираться на всенародных выборах, то его надо наделить значительными полномочиями, чтобы он мог представлять интересы голосовавшего за него электората и реально влиять на положение дел в стране.

В итоге получается модель президентской республики по принципу "я — главный". Опять начнется борьба за власть, за влияние на парламент (начиная с формирования президентской фракции) и на правительство (путем представления своих кандидатур). К такой власти устремятся личности, желающие командовать всеми и вся.

Выборы президента через парламент, как показывает практика зарубежных стран (в частности, Турции, Молдовы), — также не лучший вариант. Каждая парламентская фракция заинтересована в том, чтобы провести своего кандидата, и с этой целью стремится получить поддержку союзников — более слабых фракций. Это создает почву для серьезной конфронтации в парламенте, перетягиванию депутатов из одних фракций в другие, подталкивает к решению вопросов через негласные договоренности, подкуп депутатов. В результате сама фигура президента становится чисто номинальной: он выполняет волю тех политических группировок, которые привели его к власти.

Возможность более широкого выбора претендентов на должность президента открывает избрание его на специальном собрании народных представителей. В этом случае многое будет зависеть от организаторов собрания, от субъектов, которые получат право выдвигать своих представителей, от процедуры их отбора, от финансовых возможностей заинтересованных субъектов, от других факторов.

В то же время проведение "всебелорусского собрания народных представителей" может стать очередным балаганом по имитации выборов президента наподобие тех, которые организовывал А.Лукашенко. При такой системе выборов могут заявить о своих амбициях десятки популистов, что растянет процесс выборов на недели и месяцы. Победить на этих масштабных игрищах может либо первое лицо в государстве, либо самый влиятельный политик, либо "денежный мешок", либо чей-то протеже.

## Какие полномочия президента сократить?

При этом следует ответить на вопрос: какие из предусмотренных в статье 100 Конституции полномочий президента целесообразно сохранить?

Без всякого сомнения, президента необходимо освободить от выполнения таких полномочий, как принятие мер по охране суверенитета, национальной безопасности и территориальной целостности Республики Беларусь, обеспечению политической и экономической стабильности, соблюдению прав и свобод граждан; от руководства органами исполнительной власти и обеспечению их взаимодействия с представительными органами: от создания и управления министерствами, государственными комитетами и другими центральными органами управления Республики Беларусь; от назначения и освобождения от должности (с согласия парламента) премьер-министра, его заместителей, министров иностранных дел, финансов, обороны, внутренних дел, председателя Комитета государственной безопасности, других членов правительства; от представления парламенту кандидатур для избрания на должности председателя Конституционного суда, председателя Верховного суда, председателя Высшего Хозяйственного суда, председателя правления Национального банка; от представления парламенту докладов о положении государства, о реализации внутренней и внешней политики Республики Беларусь.

Указанные полномочия предполагают возможность вмешательства президента в сферу деятельности различных государственных органов, дачи им соответствующих указаний и осуществления контроля над их деятельностью. То есть в этих случаях президент сохраняет за собой статус начальника в государстве.

Ряд иных полномочий, закрепленных в статье 100 Конституции, также не соответствуют модели "слабого" президента. Речь идет, в частности, о назначении судей Республики Беларусь, кроме тех, избрание которых отнесено к компетенции парламента (п.10); назначении других должностных лиц, должности которых определены в соответствии с законом, если иное не предусмотрено Конституцией (п.11); о назначении и отзыве дипломатических представителей Республики Беларусь в иностранных государствах и при международных организациях (п.16); о введении на территории Республики Беларусь или в отдельных местностях чрезвычайного положения (п.18); об отложении или приостановлении забастовки (п.19); об отмене актов подведомственных ему органов (п.21); о приостановлении решений местных Советов депутатов (п.22); о руководстве Советом безопасности Республики Беларусь (п.23); о признании Главнокомандующим Вооруженными силами Республики Беларусь (п.24); о введении на территории Республики Беларусь военного положения и мобилизации (п.25); об "иных полномочиях", возложенных на него Конституцией и законами (п.26).

После сокращения полномочий новый президент станет "маленьким и безобидным" должностным лицом, который "забавы ради" может заниматься некоторыми государственными делами, а именно: "обращаться с посланиями к народу Республики Беларусь и Верховному Совету" (п.7); участвовать в работе парламента и его органов, выступать перед ними в любое время с речью или сообщением (п.9); решать вопросы о приеме в гражданство Республики Беларусь, его прекращении и предоставлении убежища (п.12); награждать государственными наградами, присваивать классные чины и звания (п.13); вести переговоры и подписывать международные договоры (п.16); принимать верительные и отзывные грамоты аккредитованных при нем дипломатических представителей иностранных государств (п.17); подписывать законы (п.20).

Правда, в этом случае встают резонные вопросы: нужно ли для выполнения этих обязанностей (функций) сохранять должность президента? Не слишком ли это будет расточительно для бюджета?

**Третий вариант** решения проблемы как раз предусматривает отказ от должности президента и возложение функций главы государства на председателя парламента. Этот вариант представляется наиболее подходящим для развития страны. Введение должности президента слишком дорого обошлось белорусскому народу. Институт президентской власти превратился в монстра, который поглотил все государство и выродился в институт личной власти.

*(Окончание статьи в следующем номере.)*

РЭЙТЫНГ

## *Беларусь — дзясятая сярод бяднейшых краін свету*

Амерыканскае выданне "Business Insider" апублікавала свой штогадовы рэйтынг самых бедных краін свету.

Беларусь займае ў ім дзясятае месца, нягледзячы на тое што афіцыйная статыстыка па беспрацоўі ў нас мінімальная.

Самай беднай краінай (першае месца ў рэйтынгу) названа Зімбабвэ, дзе ўзровень беспрацоўя складае 95%. На другім і трэцім месцах размясціліся Ліберыя і Буркіна Фасо з беспрацоўем у 85% 77% адпаведна.

Індэкс беднасці грунтуецца на ацэнцы ўзроўню беспрацоўя і тэмпаў інфляцыі на месцах: чым ён вышэй, тым бядней насельніцтва краіны.

ПРИГОВОР

# Массовые посадки на Гомельском мясокомбинате

В Гомеле оглашены приговоры в отношении большой группы руководителей и работников ОАО "Гомельский мясокомбинат", а также трех сотрудников милиции.

В статусе обвиняемых по делу, которое слушалось в Гомельском областном суде, проходили 29 человек, начиная от генерального директора до забойщиков скота. Уголовные дела, в частности, были возбуждены в отношении начальников цехов, экономистов, заместителей директора, заведующих столовой и магазином и трех милиционеров, пишет БелаПАН.

Слушания в суде начались 5 июля 2011 года. Бывший директор, возглавлявший предприятие с 1989 года, обвинялся в создании организованной группы для совершения преступлений. По версии следствия, вместе с другими руководителями комбината он разработал структуру группы, в которую вовлекались должностные лица, распределялись роли участников группы, была налажена система конспирации при подготовке к совершению хищений. В результате группе удалось разработать различные способы создания излишков продукции при нарушении технологии в ущерб качеству и количеству выпускаемых изделий, а также разработать систему противодействия правоохранительным органам в случае выявления преступной деятельности. Суду удалось выяснить, что хищения совершались в период с 2004-го по 2009 год.

Согласно обвинению, организованная группа похитила продукцию на сумму не менее 263 млн рублей, совершила покушение на хищение продукции на сумму не менее 49 млн рублей, а также уничтожили продукцию с целью скрыть следы преступлений, на сумму не менее 36 млн рублей. Речь идет о тоннах мяса и колбасы. При попытке скрыть следы преступлений было уничтожено не менее 12 тонн мясной продукции и 18 километров искусственной оболочки.

Созданные преступным путем излишки продукции члены группы использовали на личные нужды, а также для реализации по сниженным ценам "нужным" людям. Мясо, колбаса и другая продукция также безвозмездно передавалась сотрудникам милиции и чиновникам местной исполнительной власти для того, чтобы они не предпринимали мер по пресечению преступной деятельности. В столовой мясокомбината было организовано безвозмездное питание "нужных" людей.

8 мая некоторым обвиняемым изменили меру пресечения — их освободили под подписку о невыезде, причем часть из них не только вышла на свободу, но и вернулась на работу, так как существует презумпция невиновности.

11 июня суд приговорил бывшего директора ОАО "Гомельский мясокомбинат" к семи годам лишения свободы с конфискацией имущества, такой же срок получил и главный инженер предприятия. Начальник колбасного цеха получила семь с половиной лет лишения свободы с конфискацией имущества. Они наказаны за совершение хищений путем злоупотреблений.

По статьям 431-й и 432-й Уголовного кодекса ("дача взятки" и "посредничество во взяточничестве") руководители оправданы. Начальники цехов получили по три-четыре года лишения свободы с конфискацией имущества. Они также были оправданы по 431-й и 432-й статьям.

Иные работники — весовщики, кладовщики, грузчики, мастера — приговорены к ограничению свободы на сроки от полутора до четырех лет.

Трое милиционеров наказаны лишением свободы на сроки от трех с половиной до четырех лет, а также штрафами на 10 миллионов рублей каждый.

Троих работников мясокомбината оправдали, еще три человека попали под амнистию.

НУ И НУ!

## *Половина белорусов считает взяточничество нормой*

На сайте главного управления по борьбе с экономическими преступлениями МВД Беларуси был проведен опрос среди населения по теме “Коррупция”. Почти половина (49,5%) опрошенных считает, что взятки способствуют скорейшему разрешению проблем.

В связи с этим милицейское ведомство напоминает: человек, который дает взятку, должен осознавать, что он совершает преступление. Согласно статье 431 Уголовного кодекса Беларуси, ему может грозить от пяти до десяти лет лишения свободы с полной конфискацией имущества. Избежать уголовной ответственности можно, сделав чистосердечное признание.

ПЕРСОНА

## *Олег Гулак переизбран председателем БХК*

Председателем республиканской правозащитной общественной организации “Белорусский Хельсинкский комитет” (БХК) вновь избран **Олег Гулак.**

Как сообщил руководитель юридической службы БХК Гарри Погоняйло, 8 июня в Минске прошло очередное отчетно-выборное собрание БХК.

*“Мы специально не анонсировали и не сообщали о проведении собрания, поскольку нам с трудом удалось найти для него помещение. И чтобы не возникло непредвиденных ситуаций, мы никого на собрание не приглашали”,* — отметил Погоняйло.

В ходе собрания состоялись выборы в состав руководящих органов БХК на следующий период. Председателем БХК вновь избран Олег Гулак, заместителем председателя — Василий Санкович.

СИТУАЦИЯ

## *Белорусские санатории теряют клиентов*

*Из-за повышения цен некоторые белорусские санатории оказались заполненными не до конца.*

Об этом сообщил на пресс-конференции директор республиканского центра по оздоровлению и санаторно-курортному лечению населения **Николай Мазур.**

*“Ожидалось 100-процентное заполнение санаториев в летний период, но из-за повышения цен в погоне за высокой рентабельностью некоторые здравницы потеряли клиентов”,* — сказал чиновник. По его словам, средний возраст отдыхающих в санаториях — около 50 лет. И каждый обладатель путевки имеет как минимум три заболевания.

В Беларуси насчитывается 70 санаториев для взрослых, 10 детских санаториев, 13 детских реабилитационно-оздоровительных центров. Однако в последние годы они преимущественно заполнены россиянами.

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

## *Страна несуществующих свобод*

*Общественный активист из Барановичей Григорий Грик собрал 105 подписей жителей города под обращением с требованием изменения избирательного законодательства страны.*

В обращении предлагается:

— включить в избирательные комиссии представителей кандидатов в депутаты, а также членов негосударственных политических партий и общественных организаций;

— отменить предварительное голосование как главный источник фальсификаций и нарушений Избирательного кодекса;

— установить прозрачные урны для голосования;

— создать условия, чтобы при подсчете голосов наблюдатели видели, за кого проголосовал избиратель;

— обязать руководителей избирательных комиссий всех уровней вывесить телефоны международных наблюдателей и контролирующих государственных органов.

Обращение направлено в Администрацию президента и Центральную комиссию по выборам и проведению республиканских референдумов.

По странному стечению обстоятельств после отправки этого обращения Григорий Грик получил письменное уведомление о том, что контракт с ним продлен не будет. Уведомление о том, что он будет уволен 30.06.2012 года в соответствии с п.2 ст.35 Трудового кодекса Республики Беларусь, подписал директор завода А.В.Юркевич. Как обычно, власти делают вид, что это не преследование гражданина за его политическую активность, а обычная рутина.

Напомним, что преследование кого бы то ни было за политическую позицию и монополия на какую-либо идеологию запрещены Конституцией Беларуси.

**Олег СНОВ.**

СЛЫШАЛИ?

## *«Белавиа» начинает летать в Барселону*

Новый рейс появился в расписании Национальной авиакомпании “Белавиа”: белорусским пассажирам предлагается совершить путешествие из Минска в Барселону. Совершаться рейсы будут по средам и субботам. Время в воздухе составит 3 часа 45 минут.

Правда, до первого полета еще далеко: начало регулярного сообщения запланировано на 26 декабря.

Как сообщила пресс-секретарь Национальной авиакомпании “Белавиа” **Ольга Герасенко,** полеты в Барселону планируется совершать на абсолютно новом для белорусских авиаторов типе воздушного судна — Embraer 175. Использовать новые лайнеры собираются не только на рейсах в Барселону. В “Белавиа” планируют, что Embraer 175 будут также совершать полеты по давно освоенным авиакомпанией направлениям — в Москву, Милан и Амстердам.

РЭГІЁН

## *Медыцынскі заняпад*

*Упершыню за доўгія гады мясцовыя жыхары даведаліся з раённай газеты “Маяк” пра агульны стан здароўя жыхароў Бярозаўскага раёна і іншыя медыцынскія таямніцы.*

Адкрыліся шакіруючыя лічбы: толькі 17% працаздольнага насельніцтва лічыцца здаровым, не хапае 21 спецыяліста, вялікая цякучасць кадраў, няма ўрачоў першай і вышэйшай катэгорый, нагул атэставаны толькі 64% урачоў. Пры анкетаванні, якое праводзіў райвыканкам, больш за палову жыхароў раёна (53%) негатыўна адазваліся аб рабоце медыкаў Бярозаўшчыны.

Тым не менш дэпутаты раённага савета, якія разглядалі гэтае пытанне, далі наказ галоўнаму ўрачу раёна Нэлі Малейцінай выправіць сітуацыю. Пытанне пра змяшчэнне яе з пасады, нягледзячы на такі нізкі ўзровень ацэнкі працы медыкаў насельніцтвам, нават не ставілася.

ПРАМАЯ ЛІНІЯ



### *Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ:*

# «Не трэба ўпадаць у істэрыю!»

*Тэлефон калі і змаўкаў, то секунд на дзесяць. Больш за гадзіну старшыня Руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч адказваў на пытанні чытачоў “Народнай Волі”. Даходзіла да кур’ёзаў. Паколькі было шмат званкоў і тэлефон “прамой лініі” амаль увесь час быў заняты, жыхарка Магілёва патэлефанавала на іншы рэдакцыйны нумар. І папрасіла запытаць у Мілінкевіча, дзе можна... запатэнтаваць вынаходку. На рэмарку, што, маўляў, пытанне хутчэй за ўсё не па адрасе, чытачка адказала: “Дык вы ж напісалі, што ён адкажа на любыя пытанні!”*

## Якая карысць ад ценявога ўрада?

**— Гэта Аляксандр Мікалаевіч Мельнікаў непакоіць з Гродна. Вы мне сімпатычны як палітык. Хачу спытаць: што вы думаеце наконт ідэі палкоўніка Барадача стварыць за мяжой ценявы ўрад?**

— Я заўсёды зыходжу з пункту гледжання простых людзей. Ці патрэбна ім, каб апазіцыя за мяжой стварыла ўрад? Ці ў гэтым вырашэнне нашых праблем? Думаю, большасць людзей не зразумее гэтага і асудзіць. Скажуць, што паехалі за доўгім рублём. І я не веру ў магчымасць стварэння за мяжой супольнага ўрада. Але думаю, што нашы эмігранты маглі б шмат зрабіць для Беларусі.

## Санкцыі павінны быць персанальнымі

**— Вам тэлефануе Сяргей Мікалаевіч Новік з Рагачова. Я вось думаю: ці мэтазгодна ўвогуле змагацца з рэжымам Лукашэнкі? Мне здаецца, усім ясна, што гэты рэжым яшчэ гадоў на 20. І, на мой погляд, мы наўрад ці яго пераможам. Я сам з рабочай сям’і і добра ведаю настроі народа, які баіцца і ўлады, і міліцыянтаў, і нават самога сябе! Мне падаецца, трэба прасіць, каб еўрапейцы ўвялі самыя жорсткія санкцыі — можа, толькі тады нешта зменіцца.**

— Магчыма, Лукашэнку і хацелася б кіраваць вечна, але людзі ўжо стаміліся ад створанай ім сістэмы. І я ведаю, што многія чыноўнікі гэта адчуваюць. І не выключана, што ў хуткім часе рэжым можа распачаць сур’ёзныя эканамічныя рэформы і палітычную лібералізацыю. Таму што іншым шляхам захаваць уладу будзе вельмі цяжка.

Што тычыцца жорсткіх санкцый, то яны не выпраўлялі сітуацыю і ў іншых краінах. У выпадку санкцый да Беларусі людзі, наадварот, могуць аб’яднацца вакол дыктатара, а апазіцыю абвінаваціць ва ўсіх праблемах. Я супраць шырокіх санкцый, але выступаю за кропкавыя, персанальныя санкцыі супраць тых, хто парушае закон. І я вам так скажу: трэба быць больш аптымістычным! Час дыктатур скончыўся. Свет мяняецца.

**— Тады яшчэ адно пытанне. Мы баімся, каб Расія нас не з’ела. Спачатку ўтварылі Мытны саюз, а потым можа быць і аб’яднанне. І гэта будзе катастрофа!**

— Тут я з вамі цалкам салідарны, бо Расія мае намер стварыць новы Савецкі Саюз — спачатку на эканамічнай аснове. І мы не будзем гаспадарамі на сваёй зямлі, калі расійскія алігархі выкупяць нашы прадпрыемствы. З Расіяй трэба сябраваць, гандляваць, але жыць павінен кожны ў сваім доме. Да таго ж Расія — краіна з моцным крыміналітэтам, там была бандыцкая прыватызацыя. І калі мы ўсе будзем катэгарычна супраць анексіі эканамічнай, то адстаім сваю краіну. Няма ў нас будучыні без незалежнасці. Перадусім Беларусь!

## Дайте глотнуть воды!

**— Звоню из Минска. Зовут меня Валентина Поликарповна. Вы уже отвечали в “Народной Воле” на вопрос по поводу качества питьевой воды. Хочу напомнить, что мы к вам тоже обращались по поводу Севастопольского парка и скважин. У нас строят дома, рестораны, и при этом уничтожаются скважины! Выходит, мало кого заботит чистота и безопасность воды…**

— Это важная тема, и я в курсе этой проблемы. Однако вы поймите — я такой же гражданин, как и вы. Я, конечно, могу еще раз попытаться поднять эту проблему в СМИ, наше движение может оказать вам юридическую поддержку. Если знаете, чем еще могу помочь, — давайте встречаться, обсуждать.

Были бы у нас в Палате представителей реальные представители народа — можно было бы действовать через депутатов, а так... Нужны честные выборы и реально действующие депутаты. Тогда многие проблемы будет решать проще.

## Может, все-таки импичмент?

**— Меня, как и вас, зовут Александр. Как вы думаете, реально объявить президенту импичмент?**

— Импичмент может объявить парламент. И во времена Верховного Совета эта процедура была возможной. Правда, в 1996 году из-за того, что некоторые депутаты отозвали свои подписи, он не сработал. Иначе мы с вами сейчас жили бы в совершенно другой Беларуси. А сегодняшний парламент (вы же сами понимаете) на импичмент не решится. Потому что нынешние депутаты — часть государственного аппарата. И пока нет в стране свободных выборов, импичмент нереален.

**— Еще, пользуясь случаем, хотел бы попросить “Народную Волю” напечатать сказку Корнея Чуковского “Тараканище”. Вы даже не представляете, насколько это актуальное произведение!**

— Передам редакции ваше пожелание. Сказки у нас пока доступны, так что каждый может перечитать при случае...

## Равнение на Запад? Или на Россию?

**— Добрый день! Меня вот что интересует: насколько я могу судить, большинство народа — за бойкот, а политики собираются участвовать в парламентских выборах. Люди хотят идти в ногу с Россией, а оппозиция смотрит в сторону Евросоюза. Получается, политики не учитывают мнение народа?**

— Лично я доверяю социологическим исследованиям зарегистрированного в Вильнюсе НИСЭПИ. И, согласно их данным, за бойкот в Беларуси сегодня выступает чуть более 10 процентов.

Кстати, радует, что, согласно соцопросам, за объединение с Россией выступает не так много людей. Белорусы выбирают суверенитет.

## Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч выкладаў фізіку па-беларуску

**— З Гомельскай вобласці тэлефаную. Скажыце, вы выпісваеце “Народную Волю”?**

— Выпісваем, чытаем і нават час ад часу распаўсюджваем на офісе!

**— Тады вы ведаеце, што апошнім часам у газеце з’яўляюцца публікацыі наконт стану беларускай мовы. У мяне да вас просьба — паразмаўляйце, калі ласка, з палітычнымі партыямі: чаму яны паўсюль лезуць, а моўнае пытанне абыходзяць бокам? Мова — гэта ж нацыянальны гонар!**

— Я сам прыхільнік беларускай мовы, карыстаюся ёй кожны дзень. Дзеці нашы, што вучацца ў Польшчы, таксама. І я так скажу: за час улады Лукашэнкі колькасць беларускамоўных класаў у школах крытычна зменшылася. У свой час я быў віцэ-мэрам Гродна і адказваў у тым ліку за адукацыю і моўнае пытанне. І мы тады праводзілі беларусізацыю, пачынаючы з садкоў. І мелі поспех: да 1994 года ў горадзе ўжо было 75 працэнтаў беларускамоўных першых класаў! А потым не стала ніводнага. І гэта вынік працы цяперашняй улады. Я не хачу, каб вы падумалі, што я ўсю адказнасць перакладаю на чыноўнікаў. Іх віна — асноўная, але і мы таксама мусім рабіць тое, што ад нас залежыць, — напрыклад, часцей ужываць беларускую мову.

**— Старшыня ТБМ спадар Трусаў часта хваліць міністра адукацыі. Але ж міністр проста душыць мову!**

— Я добра ведаю і паважаю сённяшняга міністра адукацыі Сяргея Маскевіча. Мы разам з ім працавалі ў Гродзенскім універсітэце. І гэта быў адзін з прыхільнікаў вяртання беларускай мовы ва ўсе ўстановы! У нас тады нават на фізічным факультэце першыя шэсць семестраў фізіку выкладалі па-беларуску. І Маскевіч сам, дарэчы, адзін з першых пачаў чытаць лекцыі на роднай мове. Сёння, на жаль, ён найчасцей гаворыць па-руску...

**— А можа, усё ж такі варта было б сабрацца ўсім партыям і зрабіць агульны зварот да народа з нагоды сітуацыі з беларускай мовай? Людзі павінны ведаць, што партыйныя лідары салідарны хаця б у нечым!**

— Згодны: партыі маглі б рабіць больш у гэтым накірунку. Бо палітыкі часта засяроджваюцца на рэчах менш значных, чым адраджэнне мовы. Не будзе адраджэння мовы — будзе народ без душы.

## Кто остановит лживых милиционеров?

**— Очень часто в последнее время в судах выступают лжесвидетелями милиционеры. Составляете ли вы список этих непорядочных людей?**

— Я за то, чтобы фиксировать такие случаи. И когда у нас будет настоящий независимый суд, когда в стране на самом деле будут чтить законы, этим людям придется ответить. Ненормально, когда из-за лживых свидетельских показаний сотрудников в форме людей бросают на нары. Вот недавно интеллигентнейший человек, ученый Алексей Пикулик сел за то, что якобы вышел из подъезда и начал орать матом. И сотрудники милиции это подтвердили!

У правозащитных организаций есть списки и судей, которые выносят подобные решения, и лжесвидетелей, и директоров предприятий, и ректоров вузов, увольняющих людей за гражданскую позицию. Придет момент, когда всем им придется ответить. И это не месть! Это справедливость! В Польше и сегодня еще идут суды по подобным преступлениям, которые совершались в 1980-х годах. Это воспитание общества и формирование основ правового государства.

Фальсификация выборов — тоже уголовное преступление, срока давности оно не имеет. И все члены избирательных комиссий, которые участвуют в фальсификации выборов, должны знать, что могут предстать перед судом. И тогда не получится спрятаться за фразу: “Мне приказали!..”

## Как попасть на прием к Валентину Сукало?

**— Добрый день, вас беспокоит житель Барановичей Анатолий Николаевич Радионенко. Я проработал 19 лет главным архитектором города, был осужден по провокации, отсидел 3,5 года. Генпрокуратура вынесла протест на приговор. И вот я у разбитого корыта. К председателю Верховного суда Валентину Сукало никак не могу попасть на прием. Предварительной записи нет, я сажусь в день приема на первую электричку, приежаю в Верховный суд, а там записывают исключительно по телефону! Через полчаса дозвонишься с мобильного, а тебе в ответ: “Записи уже нет!” Абсурд! Может, вы что посоветуете, дело-то сфабриковано!**

— А если письменно к Сукало обратиться?

**— Обращался, бесполезно! Вместо Сукало ответы присылают его замы. Хотел бы подъехать к вам, чтобы не по телефону все обсудить.**

— Хорошо. Хотя вопрос, конечно, непростой. Если бы я был во власти, министром или генпрокурором, наверное, мне было бы проще вам помочь. Но у нас есть юристы, так что созвонимся. Чем сможем — поможем.

## Супраць рэвалюцыі, але за змены

**— Зямляк ваш тэлефануе з Азёр. Пытанне такое: ці адпавядае назва вашага Руху канкрэтным дзеянням?**

— У нашай арганізацыі цяпер больш за тысячу чалавек. На сёння мы больш грамадская арганізацыя, чым палітычная. Наша галоўная задача — вяртанне Беларусі ў еўрапейскую сям’ю. У абласных гарадах маем сетку “Еўрапейскіх клубаў”. Займаемся праеўрапейскай адукацыяй, у нас ёсць беларускія культурніцкія праграмы, інфармацыйныя, маладзёжныя. Разам з камітэтам “Салідарнасць” дапамагаем студэнтам, якіх выганяюць з універсітэтаў “за палітыку”. Сем’ям тых, хто апынуўся за кратамі за грамадзянскую пазіцыю. Робім усё, каб пра нас больш ведалі ў Еўропе.

Мы супраць крывавых рэвалюцый, але за сур’ёзныя змены ў краіне. Бо многія краіны, якія разам з намі былі ў Савецкім Саюзе, жывуць значна лепш за нас. Напрыклад, тыя ж эстонцы — у СССР у нас з імі быў практычна аднолькавы ўзровень жыцця, а зараз у іх у тры-чатыры разы вышэй! Мы надта спазняемся з рэформамі, але ў гэтым таксама можна знайсці плюс: калі будзем разумнымі, то не паўторым памылак, зробленых у былых сацыялістычных краінах. Але рэформы краіне вельмі патрэбныя і ўжо большасць беларусаў гэта разумее.

## Ішоў, паслізнуўся, зваліўся... гіпс

**— Ірына Тукай з Брэста непакоіць. Распавядзіце, калі ласка, як ваша здароўе? Ці праўда, што за апошні час вам давялося перанесці некалькі аперацый?**

— У красавіку меў вывіх і складаны пералом правага локця. Зрабілі сур’ёзную аперацыю ў 6-й мінскай клініцы. Дарэчы, і дактары, і медперсанал там проста выдатныя: прафесійныя і вельмі добразычлівыя. Вялікі ім дзякуй! І сёння яшчэ праходжу ў іх рэабілітацыю.

## Як пражыць на пяць мільёнаў?

**— Добры дзень! Мяне завуць Марына, з Мінска званю.**

— Вельмі прыемна!

**— Адкажыце, ці ходзіце вы па крамах? Колькі ў сярэднім грошай пакідаеце за адзін паход? У мяне меней за 200—300 тысяч не атрымліваецца. Вось скажыце: як жыць, калі заробак прыкладна 5 мільёнаў, а усё роўна на нейкія простыя рэчы (не пра брыльянты гаворка!) не хапае?**

— Пастаянна хаджу. Людзі пазнаюць, часта пытаюцца: “Ну, калі вы ўжо?” Ведаю, што беларусы заслужылі лепшае жыццё, бо працавітыя і адукаваныя. Яны цвёрда хочуць перамен. Краіне патрэбна стабільнае развіццё, а не вечная барацьба за “стабільнасць”. Любы эксперт у Бруселі скажа, што калі б сёння выбіраць сярод былых савецкіх рэспублік чарговага прэтэндэнта на далучэнне да Еўрасаюза, то Беларусь была б наперадзе Украіны, Малдовы, Грузіі. Вось толькі з дыктатурай туды не бяруць. Каб жыць па-еўрапейску, нам трэба спачатку засвоіць, што адказнасць за заўтра ляжыць на кожным з нас...

## Прыгоды апазіцыі на чыгунцы

**— Маё імя Аляксей. Скажыце, ці сустракаліся вы з Саннікавым і Бандарэнкам пасля таго, як яны выйшлі з турмы?**

— Сустракаліся і вельмі цёпла. Спрабуем дапамагаць ім у вырашэнні тых праблем, што яны маюць. Маем планы сумеснай працы.

**— Што вы думаеце наконт прыгод апазіцыянераў на чыгунцы? Днямі Саннікава знялі з цягніка, да гэтага — Фядыніча і Бандарэнку. І як, па-вашаму, можна супрацьстаяць затрыманням людзей нібыта за нецэнзурную лаянку? Вось Дабравольскі напісаў ліст на імя міністра ўнутраных спраў і старшыні Вярхоўнага суда. Як думаеце, будзе ад гэтага толк ці гэта проста стрэл у пустэчу?**

— Мяркую, што гэта псіхалагічныя атакі ўлады. Што рабіць? Па-першае, не ўпадаць у істэрыю. На вайне як на вайне. Па-другое, выкарыстоўваць усе магчымыя спосабы абароны, у тым ліку і звароты ў розныя інстанцыі.

## Замест крэсла ва ўрадзе — месца ў турме

**— З Гомеля званю, мяне завуць Ігар Манцэвіч. Скажыце, ці будуць члены Руху “За свабоду” ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах? І што можаце сказаць наконт дыскусіі, якая разгарнулся вакол рашэння прыхільнікаў Мікалая Статкевіча балатавацца ў Палату прадстаўнікоў?**

— Выбары ў Беларусі будуць фарсам, пакуль улады не рэалізуюць просты прынцып: лічым галасы разам. Усе дэмакраты абсалютна згодныя: свабодных і справядлівых выбараў няма. А як яны вызначаць свой удзел у кампаніі, гэта іх справа. Я лічу, што для байкоту мы не маем дастаткова ўплыву ў грамадстве і рэсурсаў. Прыхільнікі байкоту з большага правядуць яго віртуальна за камп’ютарам або на канапе. Мы абавязаны паказаць людзям, што дэмакраты не зніклі, што ёсць альтэрнатыва сённяшняму рэжыму. А для гэтага трэба ўдзельнічаць у кампаніі, пажадана з яснымі ўмовамі.

**— Каментуючы спрэчкі пра выбары, вы заўважылі: “*Спрэчкі ідуць аб тым, што абсалютна нецікава людзям. Людзі жывуць абсалютна іншым жыццём, нават зацікаўленыя палітычнымі праблемамі*”. А што сёння найбольш хвалюе людзей? Эканоміка? Заробкі? Жыллё?**

— Людзей перш за ўсё цікавяць іх сем’і, зарплаты, кошты, перспектывы адукацыі і працы дзяцей. Дарэчы і ў цывілізаваных краінах яны найчасцей заклапочаны тым жа. Іншая справа — у іх ёсць там права выбару ўлады, якая і павінна клапаціцца аб вырашэнні згаданых праблем.

**— І яшчэ пытанне: як думаеце, чаму пасля прэзідэнцкіх выбараў, у якіх вы бралі ўдзел (калі не памыляюся, гэта быў 2006 год), вам не прапанавалі пасаду ва ўрадзе?**

— У нас гэта не ў модзе. Часцей прапануецца месца ў турме. За часы аўтарытарызму там пабывалі дзевяць з 13 зарэгістраваных прэтэндэнтаў на найвышэйшую дзяржаўную пасаду.

**— Вас вітае Ірына Андрэева з Мінска. Мяне цікавіць, калі апошні раз вы сустракаліся з прадстаўнікамі ўлады і абмяркоўвалі рэчаіснасць? Альбо лічыце, што такія сустрэчы непатрэбныя і немагчымыя ў цяперашні час?**

— Я стала сустракаюся з людзьмі з улады. Там шмат годных прафесійных спецыялістаў. Маю шмат асабістых кантактаў, усё ж такі шэсць гадоў працы ў Гродзенскім гарвыканкаме. Гэта і мне вельмі карысна, і ім, думаю, таксама. Шкада, што страх у чыноўнікаў яшчэ большы, чым у простых людзей. Запалоханасць — адна з прычын частковага паралічу лукашэнкаўскай вертыкалі.

## Штрафныя санкцыі

**— Рада вас чуць, Аляксандр Уладзіміравіч! Распавядзіце, калі ласка, чым скончылася ваша гісторыя з падатковай інспекцыяй? Калі не памыляюся, у падатковікоў узніклі пытанні па вашых расходах, і гаворка ішла пра вялікі штраф… Колькі далі?**

— Больш за 6 мільёнаў рублёў...

**— І яшчэ пытанне: як з вамі можна сустрэцца? Дайце, калі ласка, нейкія кантакты, каб можна было звязацца і папярэдне дамовіцца?**

— Няма праблем, запісвайце кантакты Руху “За Свабоду” ў Мінску: тэлефон 280-88-63, мэйл: info@milinkevich.org. Звяртайцеся!

**Марына КОКТЫШ.**

ДИСКУССИЯ

# Не согласны с Рубиновым...

Мы, ветераны труда, много повидавшие в жизни, хотим высказаться по поводу взглядов академика Рубинова.

Вызывает недоумение его сравнение сообщества животного мира и людей. Хотя согласны с ним, что вожаки нужны, но даже среди животных они не постоянны. В семействе львов молодые изгоняют старого, то же самое в стаде слонов. Стая волков растерзывает вожака, не способного обеспечить пропитание волчат (цитируем его слова) и даже съедает лидера.

В человеческом сообществе лидерство личности должно быть за тем, кто обладает наибольшим опытом и найбогатейшими знаниями. Так позвольте спросить вас, господин Рубинов, что за лидер у нас, при котором произошел грандиозный валютный кризис, в результате двух девальваций и взрывов цен люди потеряли огромные средства? При этом депозиты населения снизились в долларовом выражении более чем на два миллиарда.

А ведь незадолго до этого Герой Беларуси, председатель Национального банка клятвенно заверял, что никакой девальвации не будет.

Ложь высокопоставленных чиновников обернулась горем для простых людей. И никто за это не ответил. Только позже глава Администрации В.Макей назвал это **горьким опытом.** Ничего себе горький опыт на людях!

Рубинов утверждает, что лидер устанавливает курс и пути развития страны, но, мол, демократическое устройство не всегда полезно. Второй частью фразы он косвенно оправдывает стремление правителей к установлению единовластия. И этому способствуют такие, как тот же Рубинов. Истории известно, что личность, вожак тогда скатывается к диктатуре, теряет ощущение реальности времени, когда обрастает подхалимами, льстецами, которые ему шепчут, что он "выше Бога".

Возвышение над народом, чрезмерная уверенность в собственных суждениях — это прямые предпосылки для пожизненного правления диктаторов, что в свою очередь является раком для общества. Чтобы предотвратить это, нужны сильные демократические институты.

События, произошедшие в странах Северной Африки, показывают, к чему приводит длительная несменяемость лидеров. К коррупции во всех эшелонах власти, падению уровня жизни людей, безработице и т.д.

Да, мы против "цветных" революций и тех негативных процессов, которые происходят при этих переменах. Но избежать этого можно только при демократии. А потому нельзя согласиться с Рубиновым, который утверждает, что демократия должна быть дозированной. Он, видите ли, сделал вывод, что по ряду причин у подавляющего большинства населения страны "в генах не записано ни почтения к частной собственности, ни особого умения вести частный бизнес". Мы расцениваем это как оскорбление белорусского народа. Да, мы знаем, что частная собственность — это сила, которая в какой-то мере разделяет общество, образует в нем разные полюса достатка. Но предпринимательство, желание заработать капитал — это движущая сила развития страны. Этому надо способствовать, а не сдерживать законами и указами. Власть и бизнес надо держать подальше друг от друга!

Господин Рубинов делает упрек советской власти, а что сделано у нас за 20 лет суверенного государства? Во многих вещах мы не продвинулись вперед, а откатились назад. Растеряли даже то, что было. Некоторые предприятия, которые нам достались после распада СССР, теперь не просто неконкурентоспособны, они никому не нужны.

Спикер Рубинов утверждает, что совершенствование политического устройства должно происходить с некоторым запозданием по отношению к экономическим процессам. Это сколько же времени будет составлять "некоторое запоздание"? 20—30—50 и более лет? Нет ответа!

Далее он утверждает, что **потребность** в демократических свободах вырастет только при высоком уровне научно-технического прогресса. Что ж! Тогда уже сегодня можно сказать, что нынешним поколениям не видать этой "потребности" как своих ушей, так как сегодня мы в техническом прогрессе отстали от многих стран навсегда.

И еще. Высказывания Рубинова о необходимости перехода экономики на российский рубль считаем просто вредным предложением. Мы просто потеряем экономический суверенитет, станем придатком соседней державы.

Мы живем в селе, живем среди простых людей и уверены, что выражаем мысли, которые волнуют многих.

**От имени ветеранов труда, бывших руководителей совхоза "Глыбочаны" Ушачского района — Е.В.АКСЕНОВИЧ, Н.Ф.КЛЕЩЕВНИК.**

РЭХА

# Не прывядзі Бог!

Адгукаючыся на востры артыкул прафесара Міколы Савіцкага аб трагічным стане мовы тытульнай нацыі, скажу прама: віна за тое ляжыць на згубнай нацыянальнай (дакладней антынацыянальнай) палітыцы дзяржавы. Ніякія Таварыствы беларускай мовы ці беларускай школы, іншыя грамадскія арганізацыі, як і высілкі асобных, хоць і вельмі гарачых прыхільнікаў роднага слова — душы народа, не ў стане кардынальна змяніць нясцерпную сітуацыю, пакуль не зменіцца курс вышэйшай улады.

Я не песіміст і не лічу, што паправіць ужо нічога немагчыма. Але народ заварушыцца і вернецца да страчанай мовы толькі тады, калі на ёй загаворыць прэзідэнт і ўсё астатняе начальства. Пакуль жа мы зноў чуем з "высокіх" вуснаў А.Лукашэнкі, што быццам з мовай у нас усё добра, у законе ўсё прапісана выдатна і кожны без усялякага ціску нібыта мае права вучыцца па сваім жаданні хоць па-руску, хоць па-беларуску...

А ў рэчаіснасці? У законе — пра роўнасць, аднолькавыя правы абедзвюх дзяржаўных моў у Беларусі... На самай жа справе для рускамоўнасці — усе вароты насцеж. А куды падацца тым, хто хоча вучыцца па-беларуску? Магчымасці тут для моладзі смешныя, часам ледзь не нулявыя. Навошта ж казаць тады, што пытанне канчаткова вырашана? Ці не азначае гэта, што канчаткова пакончана з беларушчынай? Не прывядзі Божа!

**М.БУЙНІЧ, афіцэр у адстаўцы.**

*Гомель.*

КРЫК ДУШЫ

# *Ізноў эксперыменты з адукацыяй? Колькі ж можна!*

*Дзяржаўныя СМІ паведамляюць пра старт эксперыменту з фінансаваннем агульнаадукацыйнай школы. Грошы будуць выдзяляць "на душу".*



Пакуль незразумела, якія душы і якім чынам будуць уплываць на фінансаванне. Ясна адно: пачынаецца чарговы эксперымент з адукацыяй. Прычым не проста з адукацыяй, а з фінансаваннем адукацыі. У сітуацыі, калі ў бюджэце грошай няма (а гэта зразумела кожнаму па адмене льготнага праезду студэнтам, па адсутнасці ў крамах таннага малака без дабавак, па росце коштаў на прадукты і многаму іншаму), паведамленні аб эксперыментах з фінансаваннем агульнаадукацыйнай школы выклікаюць як мінімум занепакоенасць.

Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч 8 чэрвеня сказаў, што *"эксперымент падушавога фінансавання звяжа напрамую якасць працы настаўніка, вынікі яго працы з нарміраваннем працоўнага дня, яго адказнасцю за вучняў і іх веды".* Хораша гучыць. Але слова "падушавога" — у адсутнасці дакладнай інфармацыі — выклікае думку, што настаўнік будзе атрымліваць зарплату ў залежнасці ад колькасці вучняў: чым больш вучняў — тым больш зарплата. А гэта часцей за ўсё не спрыяе якасці ведаў і супярэчыць інтарэсам вучняў і бацькоў.

Акрамя таго, кожнага з бацькоў, знаёмага з сітуацыяй у сённяшняй школе, турбуе пытанне: як будуць ацэньвацца вынікі працы настаўніка? Паводле ацэнак? Але ж гэта можа прывесці да таго, што настаўнікі будуць завышаць ацэнкі, глядзець скрозь пальцы, калі вучні спісваюць, і ўсё гэта не лепшым чынам адаб'ецца на ведах. Тым больш што дзеці вельмі хутка зразумеюць, што настаўніку нявыгадна ставіць дрэнныя адзнакі, і перастануць займацца. Затое прывыкнуць маніпуляваць настаўнікам. Настаўнік з паважанага чалавека ў выніку рэформ і эксперыментаў, якія нязменна суправаджаюцца зніжэннем рэальнага ўзроўню жыцця, ператорыцца ў бяспраўны і зневажаемы ўсімі абслуговы персанал.

Растлумачце мне як маці, што гэта за эксперымент? Чаму ён ужо "стартуе", калі яго сутнасць яшчэ не растлумачана ні настаўнікам, ні бацькам?

Ну а пра тое, што любыя эксперыменты, якія тычацца жыцця грамадзян, павінны спачатку шырока абмяркоўвацца, цяперашнія беларускія чыноўнікі, падобна, ніколі не чулі...

**Ганна КРАСУЛІНА.**

*Мінск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Клон

**Толькі трэць беларускіх студэнтаў вучыцца бясплатна. А ў Германіі засталіся толькі дзве федэральныя зямлі, дзе за вучобу ў ВНУ даводзіцца плаціць...**

*Вучоны свет яшчэ ніколі*
*Нам не даваў такіх надзей:*
*Не толькі ўжо авечку Долі —*
*Ёсць спосаб кланаваць людзей.*
*"Зляпіць" маглі і колісь цела,*
*Ды быў то чалавек другі.*
*Цяпер навука даць здалела*
*Яму ранейшыя мазгі.*
*Узнікла слушнае пытанне —*
*І не ў адной жа галаве:*
*А хто ж найпершым клонам стане*
*І зноў на свеце зажыве?*
*Людзей славутых пакаленні*
*Пакінулі нам вельмі шмат...*
*І ўрэшце вырашылі: Ленін —*
*Дастойны самы кандыдат!*
*На Краснай плошчы ў маўзалеі*
*Паклалі колісь мерцвяка,*
*І ён там год каторы тлее —*
*Шукаць не трэба ДНК.*
*Залезлі ў маўзалея сховы,*
*Усё зрабілі, як і след,*
*І правадыр, жывы-здаровы,*
*Паўстаў, з'явіўся ў гэты свет.*
*Жыцця адчуўшы асалоду,*
*Падаўся Ленін у народ,*
*Каб згледзець, што прынёс народу*
*Кастрычніцкі пераварот.*
*Ён спадзяваўся, што ў Расіі*
*Камуністычны рай даўно,*
*Ды ява сілы падкасіла:*
*Зусім інакшае відно.*
*Увесь народ, лічы, бамжуе*
*І наўзахлёб гарэлку п'е.*
*І толькі новыя буржуі*
*Пампуюць кашалькі свае.*
*Няма імперыі-дзяржавы,*
*Якая мелася раней...*
*І ад такой жахлівай явы*
*Хоць зноў кладзіся ў маўзалей.*
*Няма мяжы ягонай скрусе...*
*Але прачуў аднойчы ён,*
*Што ў незалежнай Беларусі*
*Яго ідэі маюць плён.*
*Усім жывецца там на славу,*
*І камунізм амаль узнік,*
*Бо "сацыяльную дзяржаву"*
*Стварыў тамтэйшы кіраўнік.*
*Няма ні бедных, ні багатых,*
*Паўсюль адзін калгасны лад,*
*І ўрад*
*Ва ўсе дамы і хаты*
*Даброт-ільгот прыносіць шмат.*
*Калі ў краіне гэтак добра,*
*"Амаль камуністычны рай",*
*Узнікла ў Леніна жадоба*
*Наведаць беларускі край.*
*Ён апрануў касцюм рабочы,*
*На лысіну ўсцягнуў парык,*
*Бо ведаў: пусціць пыл у вочы*
*Яму тамтэйшы кіраўнік,*
*Калі пазнае ў ім, крый божа,*
*Славутага правадыра,*
*Усё ён прыхарошыць зможа,*
*І ўсюды чуцьмецца: "Ура!".*
*Пратупаў Ленін шмат абшараў*
*І многа распытаў людзей,*
*Аднак чамусь шчаслівых твараў*
*Не ўбачыў ён амаль нідзе.*
*Народ мясцовы не шыкуе*
*І дбае, што пакласці ў рот...*
*А мэту меў хіба ж такую*
*Кастрычніцкі пераварот?*
*Хіба ж тут "рай" на самай справе,*
*Якому б пазайздросціў свет?*
*У "сацыяльнае дзяржаве"*
*За ўсё плаціць народу след!*
*Каб аддаваць усе паборы,*
*Рублёў патрэбны цэлы кош:*
*Калі нямоглы ты ці хворы,*
*Нясі ўрачу апошні грош;*
*Напоўніцу народным масам*
*Аброк на газ і на святло.*
*За родным бальшавіцкім часам*
*Такога нават не было.*
*У інстытутах за вучобу*
*Люд не плаціў (паўсюль — лікбез!),*
*Цяпер жа мецьмеш ты хваробу*
*Дыплом студэнцкі грошай без.*
*У беларускім "ладзе-цудзе"*
*Ільіч зняверыўся на нуль*
*І палічыў, што лепей будзе,*
*Калі ўцячы хутчэй адсюль.*
*А дзе ж шукаць прытулак новы?*
*Шлях — да заходняе мяжы,*
*Бо колісь ён жыцця палову*
*У эміграцыі пражыў.*
*Быў лёс, прынамсі, не імглісты*
*На еўрапейскае зямлі...*
*Магчыма, там капіталісты*
*Зусім яшчэ не "загнілі".*
*Спыніўся Ленін у Берліне*
*(Калісьці меў прытулак тут),*
*Стаў назіраць, як у краіне*
*Цяпер жыве нямецкі люд.*
*Ён быў уражаны: заможна*
*Жыве паўсюль рабочы клас.*
*Машыну, грошы мае кожны,*
*Кватэра ёсць (нат дом падчас).*
*Нібы паны — пенсіянеры,*
*Ніхто ад п'янкі не азыз.*
*І кожны год — даць цяжка веры —*
*У Ніцу едуць ці ў круіз...*
*Для іх хвароба — не пакута,*
*Пра лекі клопатаў няма.*
*А ўсе студэнты ў інстытутах*
*Грызуць навуку задарма.*
*"Грэх цяжкі на маім сумленні,*
*Якому хутка сотня год...*
*Бядою стаў, — падумаў Ленін, —*
*Кастрычніцкі пераварот".*

* * *

*Няма прагрэсу ў нас ні трохі,*
*Патуг народа марны плён...*
*Застойнай і пустой эпохі*
*У Беларусі робяць клон.*

ЧЕЛОВЕК — ЧЕЛОВЕКУ

# *Вам, Алексей, будет стыдно...*

Через "Народную Волю" я хочу обратиться к Алексею Емельянчику, мастеру цеха ОАО "Азот".

Я с удивлением узнал, что Вы в стиле сталинского времени решили расправиться с экс-кандидатом в президенты Дмитрием Уссом. У Вас для это нет никаких оснований.

Во-первых, почему Вы не подали в суд на конкретных чиновников, находящихся в высших эшелонах власти, когда Вам в результате девальвации резко снизили зарплату, когда доходы людей упали наполовину и более? Вы не подали в суд ни за фальсификации на парламентских и президентских выборах, ни после того, как пропали Виктор Гончар, Юрий Захаренко, Дмитрий Завадский, Анатолий Красовский и так далее.

Во-вторых, Вы от высказываний Дмитрия Усса экономически не пострадали и не вправе требовать от него два миллиона рублей (30 сребренников).

В-третьих, Вы не пострадали морально, так как Дмитрий Усс не оскорбил ничем Вас лично, ни за Вашей спиной, ни какими-либо намеками.

Преступления со стороны Дмитрия Усса я не вижу, каждый имеет право высказать свою точку зрения на те или иные события в стране, в мире.

А вот Вы нарушаете закон. Вы пытаетесь при помощи суда запретить Дмитрию Уссу высказывать свою точку зрения, высказывать свое мнение. Это противоречит закону Республики Беларусь, это противоречит Европейской конвенции о правах человека, вступает в противоречие с Декларацией прав человека ООН.

Это на Вас нужно подавать в суд. Вас нужно судить. Вы сами (или по указанию власти) захотели прославиться на всю страну. Разочарую Вас: время уже не то и народ не тот. Многие уже не верят власти, которая допустила серьезные экономические промахи, не раз нарушала закон о выборах, расправлялась с инакомыслящими.

Не сомневаюсь, найдутся такие, кто Вас поддержит, но пройдет суд (если пройдет) — и подавляющее большинство людей будут показывать пальцем в Вашу сторону: "Вон пошел тот, который помогает властям расправляться с оппозицией..."

Потом Вас все бесследно забудут, как забыли многих, кого власть использовала и выбросила. Не ставьте себя, Алексей, в один ряд с убийцами царя Николая II, с людьми, которые расстреливали оппозицию и невиновных в 1937 году. Оппозиция тоже может подать на Вас в суд, попросить Евросоюз сделать вас невыездным в страны ЕС, пожаловаться будущему президенту Беларуси на Вас, что Вы очень активно в 2012 году помогали власти расправляться с оппозицией.

Ваши дети, внуки через много лет спросят Вас: "Отец (дедушка), как ты боролся с тем диктаторским режимом, который был?" Что Вы ответите? Я помогал власти бить оппозицию? Вам будет стыдно. Заберите заявление из суда на Дмитрия Усса. Пока не поздно. И никогда не делайте таких ошибок в жизни!

**Олег МОРХАТ, житель Шарковщины.**

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ

# Бойкот, только бойкот!

## *или Готов ли народ бороться за новую власть?*

Сейчас поменять власть в Беларуси не представляется возможным. А как тогда изменить ситуацию? Сама власть никогда не пойдет на политическую реформу. Первое стремление каждой власти: она хочет оставаться ею навсегда, а это значит, что конфликтов, столкновений между нею и оппозицией не избежать. Оппозиция не может уйти от критики правительства и не добиваться смены власти. Это аксиома.

Время же правления А.Лукашенко явственно показало: наш властитель готов что угодно делать ради сохранения личной власти. Расчеты оппозиции на кардинальные изменения Избирательного кодекса нереальны и недальновидны. Это обман самих себя. А.Лукашенко построил свою вертикаль так, что она беспрекословно подчиняется ему во всем. Вся идеологическая государственная машина работает на власть. В стране нет общественного независимого телевидения, у немногочисленных независимых газет небольшие тиражи. О какой демократии и свободе можно вести речь?

Что может противопоставить этому наша оппозиция? Ровным счетом ничего. Кроме одного — бойкота выборов. Поскольку воздействовать на власть акциями протеста, на которые выходит 2—3 тысячи человек, бесполезно. На преодоление страха из-за угрозы потерять работу, свободу и оставить детей без куска хлеба не каждый решится.

Где находится ключ к механизму давления на власть? Он в руках самого белорусского народа. Не надо баррикад. Но раз власть не хочет, чтобы люди могли реально влиять на политическую жизнь страны, нужно объявить массовый бойкот этой власти. Ведь народ по Конституции и есть источник власти. В подобной ситуации лозунг "Бойкот выборам!" весьма и весьма актуален. Важно только всеми силами и средствами доводить до сознания людей, что такой бойкот не запрещается законом! Вот этим и должна заняться оппозиция вместо того, чтобы переливать из пустого в порожнее.

До парламентских выборов осталось совсем немного. Самое время для оппозиции идти в народ с лозунгом "Бойкот выборов!". Доходчиво, убедительно и терпеливо объяснять, что к чему, что здесь нет нарушения закона, угрозы репрессивных мер. Тогда люди выйдут на площадь не только в столице, но и в областных и районных центрах. Они будут защищать свое право решать, как жить стране. Именно в этом направлении оппозиция должна работать не покладая рук, не упуская ни часа.

**Александр ЗАРЕНОК, житель г.Калинковичи.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

# *Вечная тэма разладу*



***Мая былая жонка пры разводзе адмовілася ад аліментаў і потым ніколі не патрабавала аліменты ні вусна, ні праз суд. Я час ад часу грошы падкідваў, купляў сыну падарункі, рэчы, але, зразумела, што ўсё гэта ніякімі дакументамі не фіксаваў. Але цяпер жонка заявіла, што я вінен ёй вялікую суму і яна хоча спагнаць аліменты ажно за 15 гадоў. Ці магчыма такое?***

**Міхаіл Першын, Мінск.**

Не, Міхаіл, такое немагчыма. Калі ваша жонка здолее даказаць у судзе, што прад'яўляла вам патрабаванні аб выплаце аліментаў, а вы іх ігнаравалі, не плацілі, то з вас сапраўды могуць сыскаць грошы. Але толькі за апошнія тры гады.

ПРАЎДУ!

# Полацк, наша калыска...




Зараз па радыё і ў дзяржгазетах шырока рэкламуецца кніга аб нашым старажытным Полацку, прысвечаная 1150-годдзю славутага горада над Дзвіной. Добрая справа, трэба яе вітаць. Але чамусьці пры пералічэнні аўтараў чаканага выдання не ўпамінаецца імя знанага палачаніна, бліскучага сучаснага пісьменніка і глыбокага даследчыка айчыннай гісторыі **Уладзіміра Арлова**. Ягоная цікавейшая і надзвычай грунтоўная праца — кніга "Таямніцы полацкай гісторыі" (Мінск, 2000 г.) адкрывае ва ўсім багацці, велічы і трагізме лёс калыскі нашай духоўнасці і дзяржаўнасці, скарбніцы нацыянальнай культуры.

Я рос у вёсцы паблізу Полацка, часцяком там бываў. Захапляўся яго архітэктурнымі шэдэўрамі, абураўся знішчэннем у савецкі час спадчыны мудрых і даравітых продкаў. Таму з асаблівай ахвотай бяру з кніжнай паліцы кнігу Уладзіміра Арлова і з галавой акунаюся ў акіян раней нязведанага пра родны край, яго сапраўдную гісторыю, што вякамі хавалася ад людзей. Хачу ведаць праўду! Час вяртаць сваю памяць на месца, і творы майго любімага пісьменніка тут вельмі дарэчы.

Прасіў бы рэдакцыю "Народнай Волі", калі толькі магчыма, перадрукаваць у газеце хаця б адзін з раздзелаў кнігі, які мяне моцна ўсхваляваў, пад назвай "Полацкая вайна". Даўно тое было, але ўспаміны пра жудасныя падзеі тых часоў і дагэтуль перадаюцца маімі землякамі з пакалення ў пакаленне. Забыць пра тое — і многе іншае — проста нельга, бо з завязанымі вачыма і заткнутымі вушамі на добрую дарогу не выб'ешся...

**Віталь Ігнатавіч ЛЕВАНОВІЧ, жыхар Віцебска.**

**Ад рэдакцыі**

Шаноўны Віталь Ігнатавіч, дзякуй за добрую параду! Пры магчымасці пастараемся яе рэалізаваць.

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

# «Бяжы ў двор, там кусцікі!..»

Калісьці рымскі імператар Веспасіян увёў у Рыме падатак на... прыбіральні. Яго сын Ціт выказаў сваё нездавальненне гэтым, а бацька яму: "Грошы не пахнуць!"

З тае пары і ходзіць па свеце гэтая прымаўка, якую ўсё часцей згадваю на вуліцах Гомеля. Чакаю на чыгуначным вакзале цягнік. Да дзвярэй туалета ў тунэлі падыходзіць — і тут жа адыходзіць старэнькая вясковая кабета. "Ды тут жа ўваход платны, а дзе бясплатны, як раней? — звяртаецца яна да мяне і ўздыхае: — Сорамна і казаць, але грошай у мяне няма". "Не-не, я не прашу, не трэба!" — замахала яна рукамі, калі я працягнуў ёй 1000-рублёвую купюру. Але ўсё ж настояў на сваім, не мог глядзець на яе засаромлены, разгублены твар.

Некалі на праспекце Леніна былі бясплатныя "зручнасці" для прахожых, цяпер жа без усялякага одуму правіць баль чыстаган. Якраз на месцы былога туалета — кафэ "Трюм". Каля будынка вясковы дзядзька з дзяўчынкай — ён хвалюецца, яна капрызіць, плача: "Не хачу цярпець!" Зразумеўшы, у чым справа, я мусіў разрульваць сітуацыю. Кажу дзяўчынцы: "Бяжы хуценька вунь у той двор, там кусцікі..." Скажыце, гэта цывілізацыя? Гэта сучасны горад?

...Знаёмы распавёў, як па дарозе ў Францыю аўтобус прыпыніўся ў "капіталістычным" бельгійскім лесе, каб пасажыры крыху перадыхнулі. Што і казаць, капіталісты ўмеюць лічыць капеечку. Але падарожнікі ўбачылі сучасны бясплатны туалет з вадой і электраручнікам. Вось вам першае ўражанне ад еўрапейскай краіны, еўрапейскай культуры, павагі "тамтэйшых" перш за ўсё да саміх сябе.

Ну а мы? Каму не знаёмая карціна на нашым баку пры аналагічным выпадку? Бадзёры кліч вадзіцеля: "Девочки — налево, мальчики — направо!". А на самім вакзале? У Вільнюсе наведванне "ўстановы" бясплатнае, на Гомельскім жа вакзале туалеты належаць не чыгунцы, а, як я даведаўся, нейкай фірме "Генуя" з офісам у Гродне. Вось тыя ўладальнікі і стрыгуць купоны там, дзе варта і не варта. Для іх ужо дакладна "грошы не пахнуць". А вы, грамадзяне, калі сталі, хай не па сваёй віне, ушчэнт збяднелымі, шукайце сабе непадалёк кусцікі...

**Алесь БЕЛЫ, жыхар Гомеля.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ!

## Паліць забаронена

*У сталіцы свабоднымі ад тытунёвага дыму вызначаны 15 тэрыторый.*

Зонамі некурэння абвешчаны:

Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага, Цэнтральны батанічны сад, парк культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў, УП "ЖРЭА Першамайскага раёна Мінска", Ветэранскі дворык па вуліцы Цікоцкага, Мінскі заапарк, плошча Незалежнасці з прылеглымі да яе тэрыторыямі, парк забаў "Дрымлэнд", парк імя 60-годдзя Кастрычніка, Аляксандраўскі сквер, Лошыцкі парк, піянерскі сквер УП "Зялёнбуд Заводскага раёна Мінска", тэрыторыя плошчы перад універмагам "Беларусь", Парк культуры і адпачынку імя 900-годдзя Мінска, тэрыторыя каля помніка "Беларусь партызанская".

Калі, напрыклад, вы прысядзеце на лавачку перад будынкам БДУ і запаліце цыгарэту, то можаце атрымаць штраф да 4 базавых велічынь — 400 тысяч рублёў.

АСОБА

## Епіскап Стэфан узначаліў Гомельскую епархію

*Рашэннем Святога Сінода Рускай праваслаўнай царквы епіскапам Гомельскім і Жлобінскім прызначаны епіскап Стэфан, які раней узначальваў менш значную Тураўскую і Мазырскую епархію.*

Такім чынам, інтрыга з вакантнай кафедрай у Гомелі вырашылася на карысць прадстаўніка беларускіх святароў, хоць да апошняга не выключалася, што на адну з самых буйных беларускіх епархій дашлюць "варага" з Расіі. У Тураў, у сваю чаргу, прызначаны таксама беларускі святар — былы епіскап Рэчыцкі Леанід.

Епіскап Стэфан (Анатоль Уладзіміравіч Нешчарэт) нарадзіўся 3 студзеня 1966 года ў вёсцы Вярціеўка Нежынскага раёна Чарнігаўскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Пасля заканчэння ў 1982 годзе сярэдняй школы жыў у Чарнігаве, дзе праходзіў паслушэнства іпадыякана. Пасля службы ў арміі, з 1985-га па 1988 год праходзіў навучанне ў Маскоўскай духоўнай семінарыі. Падчас вучобы 4 студзеня 1987 года быў пастрыжаны ў манаства з імем Стэфан.

14 студзеня 1987 года архіепіскап Дзмітраўскі, рэктар Маскоўскай духоўнай акадэміі, высвяціў манаха Стэфана ў іерадыякана, а 3 чэрвеня таго ж года — у сан іераманаха.

З 1987-га па кастрычнік 1988 года іераманах Стэфан служыў у Свята-Мікалаеўскім храме вёскі Рабоцін Каропскага раёна Чарнігаўскай вобласці, затым нёс розныя паслушэнствы ў Свята-Успенскай Кіева-Пячэрскай Лаўры.

У лістападзе 1990 года іераманах Стэфан пераведзены ў Гомельскую епархію Беларускага экзархата і прызначаны настаяцелем Свята-Пакроўскага храма ў вёсцы Карма Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Менавіта тут у 1991 годзе былі здабыты мошчы Святога праведнага Іаана, цудатворцы Кармянскага, прылічанага да ліку мясцовашанаваных святых.

У 2004 годзе айцец Стэфан стаў епіскапам Тураўскім. 7 чэрвеня прынята рашэнне аб тым, што ён узначаліць Гомельскую епархію, якая стала вакантнай пасля раптоўнай смерці ў канцы красавіка 2012 года аднаго з самых аўтарытэтных прадстаўнікоў праваслаўнай царквы ў Беларусі, епіскапа Арыстарха.

ПАДЗЕЯ

## Дзякуй, маэстра!

*На выхадных у Маладзечне адбыўся XII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.*

*Першыя фестывалі праходзілі кожнае лета, потым было вырашана праводзіць іх праз сезон. Цяпер ізноў маладзечанскі фэст будуць ладзіць штогод.*



Адным з галоўных мерапрыемстваў фестывалю быў рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні ў суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі **Міхаіла Фінберга**.

Фестываль праводзіцца з 1993 года, і за гэты час ён даў старт кар'еры многіх вядомых беларускіх артыстаў. Тут загучалі імёны **Ірыны Дарафеевай, Наталлі Тамела, Вікторыі Алешка, Ларысы Грыбалёвай** і іншых. Акрамя таго, музычны форум кожны раз знаёміць жыхароў і гасцей горада з раней не вядомымі публіцы творамі айчынных кампазітараў.

*"Гэты фестываль заўсёды быў значнай падтрымкай прафесійных кампазітараў і паэтаў, ён — адзіны, які праходзіць цалкам на роднай беларускай мове"*, — кажа Фінберг.

*"Мы павінны сказаць вялікі дзякуй усім творцам, людзям, якія займаюцца захаваннем і развіццём нашага нацыянальнай спадчыны, нашага беларускага слова, беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай паэзіі*, — падкрэсліў міністр культуры **Павел Латушка**. — *Таму што менавіта слова, мова і паэзія з'яўляюцца крыніцай беларускай культуры, крыніцай душы беларускага народа".*

Асобны дзякуй, канешне, заслугоўвае маэстра **Міхаіл Фінберг,** які прыклаў шмат намаганняў для таго, каб гэты фэст існаваў.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПЕРСОНА

# Издатель

## 25 вопросов человеку, для которого выпускать книги — удовольствие

*Издательство "ЛогвінаЎ" — самое престижное независимое издательство в нашей стране. По мнению маститых белорусских писателей, печататься в нем — это честь. Лицо издательства определяют такие прекрасные серии, как "Галерэя Б", "Чэшская калекцыя", "Кнігарня "Наша Ніва". Создатель этого успешного современного проекта — **Игорь ЛОГВИНОВ**. Мы с ним долго договаривались о встрече, а когда она состоялась, я некоторое время не могла совместить образ известного бизнесмена Логвинова с богемного вида взъерошенным моложавым человеком, который предстал передо мной в тесной каморке, то бишь рабочем кабинете владельца издательства.*

*Но разговор начался, и удивиться мне пришлось еще раз. Ни грамма пафоса, ни толики торжественности. Ясность, простота, легкая самоирония. А между тем его работу — издание национальной литературы — в наших условиях можно приравнять к подвигу. Правда, к подвигу веселому. На другой Игорь Михайлович, конечно, не согласился бы. "Кровавая серьезность" не из его репертуара. По мнению друзей, Игорь Логвинов все делает вроде бы играючи. Он человек отважный и немного безумный. Не любит долго примеряться к глубине, в воду прыгает сразу. Травмы? Бывают... Финансовые, наверное, в том числе. Но искренний порыв ведь важнее, правда?*

*И как сноска: русский как язык общения выбран по просьбе И.М.Логвинова.*



*1.* **— Что вы вкладываете в слово "патриотизм"? Что, вспоминая классика, в этом звуке для сердца вашего слилось? Что в нем отозвалось?**

— Ничего мне это слово не говорит. Не близко оно мне. Я с "патриотизмом" не работаю.

*2.* **— А тот факт, что вы издаете белорусскую литературу, разве к этому слову не относится?**

— Нет. Я ее издаю потому, что здесь живу, я здесь вырос, и потому, что мне это нравится. Белорусская литература мне ближе и понятнее, чем всякая другая. Для меня литература, прежде всего, делится на хорошую и плохую. А патриотизм — это, по-моему, движение в никуда.

*3.* **— У издателя Логвинова есть какие-то табу? Что вы не будете печатать ни при каких обстоятельствах, даже если хорошо заплатят?**

— Табу, конечно, у меня есть. Я точно не буду связываться с политическими проектами: мне эти темы не близки, да и опасно. И не буду печатать совершенно чернушные вещи.

*4.* **— Но, кажется, руководитель официального союза писателей Чергинец именно за это — за издание, по его мнению, такого рода книг — и громил вас со своей высокой трибуны на съезде? Какие, кстати, были последствия?**

— Была проверка издательства Министерством информации... Секретарь союза периодически кидается на нас, как бульдог. Я не знаю, с чем связано его раздражение в наш адрес. По-моему, это личная проблема секретаря, его вкусов и пристрастий. Потому что книжка "Пирожки" — стихи российского литературного объединения "Sohas", всеми принятого и уважаемого, оно занимает свою нишу. В общем, это веселая литература. Там нет чернухи. С моей точки зрения, это хороший литературный продукт. Если секретарь видит в авангардистских стихах что-то шокирующее, то это надуманно. Или, повторюсь, его личная проблема.

*5.* **— А что на сегодняшний день определяет вашу издательскую политику?**

— Прежде всего мои личные литературные пристрастия. Многие литераторы — мои друзья, их литература для меня является хорошей. Словом, издательская политика — это круг дружбы и взаимного интереса.

*6.* **— А вы не боитесь попасть в зависимость? Круг дружбы может незаметно сомкнуться... И стать давлением. И попробуй не напечатать, например, товарища Владимира Орлова.**

— Нет, я не ощущаю давления. Напротив, с нетерпением жду новых книг моих друзей, и доступными мне способами сам мотивирую их на это. Мне искренне интересно. Например, недавно в издательстве вышли несколько книг Валентина Акудовича.

*7.* **— Разве книги уважаемого талантливого философа и литератора Валентина Акудовича могут принести издательству доход?**

— Если мне книга доставляет удовольствие, то это уже доход! Что касается денег, то если мы до сих пор выпускаем книжки — значит, более-менее сводим концы с концами. Но у нас нет задачи разбогатеть, у нас задача жить так, как мы выбрали.

*8.* **— Вам не кажется, что галерея "Ў", которая располагается на одних площадях с вашим книжным магазином, — это, по сути, маленькое гетто?**

— Не кажется. Это так и есть. Маленькое гетто.

**— Так в связи с этим, может, стоило бы жить и работать более автономно от этого клуба-галереи?**

— Ну, с кем из читателей мы совпали, тому наше соседство с художественным авангардом даже нравится. И наша "кнігарня", и галерея — это, прежде всего, место, отличное от других. И слава Богу, что оно в Минске есть. Конечно, мы заинтересованы в большем потоке покупателей, но у нас все же есть ясная система ценностей: мы продаем книги, которые нам самим нравятся. На 90 процентов, по крайней мере.

**— Вы уже несколько раз употребили слово "нравится"...**

— Да, могу позволить себе такую роскошь.

*9.* **— А чем, как вы думаете, ваше издательство отличается от других?**

— Нет, мы не особенные. Большинство тех, кто занимается изданием белорусской литературы, делают это из симпатии, а не ради денег. Я не знаю ни одного финансово успешного проекта, связанного с белорусской литературой. Проекта, который бы приносил достаточный доход, на который можно было бы жить. Это всегда проблемы и поиски.

*10.* **— Приходят ли к вам молодые литераторы самотеком?**

— А мы и начинали работать как издательство, ориентированное именно на современную белорусскую литературу, то есть прилагали усилия для поиска и продвижения авторов новой литературы. Молодые составляют половину наших авторов и теперь. И плюс у нас есть партнеры: "ПЭН-центр", у которого есть программы и конкурсы для молодых литераторов, а также Белорусский союз писателей, который выпускает серию "Пункт адліку" — тоже дебютные тексты молодых, победителей разных конкурсов. Вот их мы и печатаем.

**ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»**

*Игорь Михайлович Логвинов родился в Гродно. Музыкой и спортом не занимался — читал дни и ночи напролет книги. Поэтому поступил на философский факультет Белорусского государственного университета и успешно закончил его, а также аспирантуру Республиканского института высшей школы в Минске. В издательствах работает с 1995 года. Был директором издательского центра „Менск", издательства „Пропилеи", руководил издательским отделом Европейского гуманитарного университета (Минск). В 2000 г. создал собственный проект — издательство „ЛогвінаЎ", которое выпускает современную белорусскую литературу, переводы на русский и белорусский языки, научную литературу по гуманитарным дисциплинам.*

*Женат. Двое детей. Жена — доктор философских наук Татьяна Щитцова, главный редактор журнала "Топос".*

*11.* **— Молодые могут рассчитывать на гонорар?**

— Считанные белорусские писатели получают гонорар — хотя, не скрою, у нас есть выгодные проекты и более-менее удачливые авторы. Молодые — нет, не получают гонорар, у них другая мотивация: напечатанная книга — это возможность заявить о себе. Но часть нетерпеливых молодых, конечно, оплачивает производство своих книг сама.

*12.* **— Интересно, а кто у нас получает большие гонорары?**

— Большие гонорары в Беларуси не получает никто! Получают просто гонорары — признанные авторы Бахаревич, Орлов, например. Будет получать, надеюсь, Акудович.

*13.* **— А это возможно: из "говна", извините, сделать конфетку? Современное издательство обладает механизмами раскрутки примитивного текста — как в шоу-бизнесе?**

— Нет, это невозможно. Все-таки книжки читают люди, по крайней мере, не тупые. На них повлиять довольно сложно. На волне рекламы еще можно продать часть тиража, но сделать из плохого текста книгу, о которой бы все говорили, невозможно. Так что затраты на рекламу низкопробного текста бессмысленны.

*14.* **— А как вы, собственно, отслеживаете вкусы читателей?**

— Это очень сложно, я на самом деле до сих пор в этом не ориентируюсь. Есть много проектов, которые лично мне нравятся, но они совершенно "не продажны", не попадают в читательский тренд. Вот Винцесь Мудров. Он создает очень качественную эссеистику, его книгу хвалил даже Вацлав Гавел. Но он живет в Витебске, очень скромный человек, а у нас недостаточно ресурса, чтобы пропагандировать его творчество. А покупают все-таки известные фамилии.

*15.* **— Какие литературные направления вы считаете перспективными?**

— На сегодняшний день все зависит не от жанра, а от качества литературы. Да, все нынче ожидают от белорусской литературы роман, который удивит. И ожидание задает нервозность. Потому что на самом деле невозможно заказать и ждать "Тихий Дон", верно? Есть естественный литературный, культурный, исторический процесс, который приводит или не приводит к появлению такого романа. Сегодня много молодых авторов, которые пишут хорошо. Но что из этого будет?..

*16.* **— Кстати, отвергнутые авторы вам никогда не угрожали?**

— Все-таки большинство авторов — это друзья...

*17.* **— Печатая книги, вы испытываете удовольствие, похожее на чувство власти над читателями, над их сознанием? Ведь книгоиздатель, как и писатель, — властитель дум.**

— Нет, не думаю. Книжка уже потеряла то значение для культуры, которое она имела в XIX — начале XX века. Теперь она обычный продукт, который имеет свойство товарности. Книжка потеряла бесспорное влияние на социум, чтобы, продавая тираж, испытывать над кем-то власть.

*18.* **— Вы переманиваете авторов от других издательств?**

— У нас нет конкуренции между издательствами! Нет рычагов в виде миллионных гонораров, которые, например, платит издательство "АСТ" в Москве. Объем нашего рынка — тираж 500—1000, максимум 2000 экземпляров. И как-то все уже сложилось: я не переманиваю, я просто предлагаю.

**— Благородная бедность.**

— Можно и так сказать.

*19.* **— Что вы сегодня будете читать перед сном?**

— Ой, я читаю много всего. Я не могу читать одну книжку, у меня "в работе" сразу несколько — по всей квартире они лежат. В квартире был недавно ремонт, так столько "повылазило" забытого из библиотеки. Сейчас, например, читаю с большим удовольствием "Рождение трагедии из духа музыки" Ницше. Там большой комментаторский текст, переписка... А вчера очень увлекся книгой "Мыслитель на сцене" Петера Слотердайка, посвященной Ницше.

*20.* **— Вы, может, перешли на электронные книги?**

— Лично я нет. Хотя как будущий проект эта мысль у нас существует в издательстве: к концу года мы хотим открыть бутик электронной книжки. Оцифровать все наши издания и книжки партнеров, с которыми договоримся. Сейчас над этим работаем. Потому что на бумаге очень дорого: на сегодняшний день планов издать книжек больше, чем ресурсов. При этом сам я очень не интернетный, не компьютерный человек. Согласен, это мой предрассудок — я не люблю электронную почту, которая, как настоящая "временная ловушка", отнимает по 3—4 часа в день. Поэтому я попытался наладить свою жизнь так, чтобы иметь к этому как можно меньше отношения. У меня слишком много живого общения — авторы, заказчики, сотрудники, чтобы тратить время на интернет.

*21.* **— Скажите, появилась в современной белорусской литературе за последние 20 лет книга, которая изменила интеллектуальную атмосферу в обществе?**

— Думаю, что есть. И не одна. Например, книги Валентина Акудовича. Он — сильная в интеллектуальном влиянии фигура. Акудович пишет про Беларусь, и пишет патриотично — хотя я, как говорил, и не люблю этого слова, оно, по-моему, ведет к шовинизму, фашизму, к насилию, пренебрежению. А он нашел такой угол рассуждения, такой угол подачи материала, что с темами, больными для белорусов, работает тонко, на высшем уровне. А то раньше белорусский текст чаще всего был написан в духе шапкозакидательства: "Мы самые крутые! Грюнвальд! А кругом полячишки, москали..." Также сильное влияние на общественную атмосферу, по-моему, оказали книги Владимира Орлова. А Алесь Рязанов? Это вообще белорусский Целан. По глубине мысли не могу найти ему равных. Столп. Повезло, что живем с ним в одно время.

*22.* **— А у вас нет идеи организовать свой книжный фестиваль?**

— Есть! Мы уже давно с этой идеей носимся — альтернативный фестиваль, в котором были бы задействованы не только книжки и писатели, но и художники, музыканты. И делать это надо не в Минске, а выносить, может быть, в Гродно. А то Минск со своими книжными проблемами оказался очень далек от других городов республики. А интересных проектов много и в Гродно, и в Витебске — хотелось бы сделать смещение из столицы.

*23.* **— Вы, наверное, любите путешествовать по Беларуси?**

— Да! Мы ездим периодически с презентациями наших книг. Хотя в этом году пока немного зашились в столице, но вскоре наверстаем. Это единственный путь для промоушена продукции.

*24.* **— А теперь вопрос не в тему (а то все про книги да про высокое). Вот скажите, вы отмечаете 8 Марта среди сотрудников издательства?**

— Я надеюсь, что скоро не будем, хотя по инерции сотрудники пока сами его отмечают. Но дома мы этого не делаем. Цветы жене я дарю спонтанно — и поводов, поверьте, хватает.

*25.* **— Но вообще праздники любите?**

— Нет! А праздники по календарю — особенно длинные — меня раздражают: ни позвонить, ни согласовать, только проблемы накапливаются. Я сам люблю устраивать себе выходные. Прежде всего я ценю чувство внутренней свободы.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЗДАРЭННІ

# Забойны раён

## У Столінскім раёне зноў здзейснена забойства

Дзень Сёмухі (Святой Тройцы), які святкаваўся ў гэтым годзе 3 чэрвеня, у вёсцы Аздамічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці традыцыйна адзначаецца на шырокую нагу, на працягу трох дзён. Паколькі тут знаходзіцца праваслаўны храм, пабудаваны ў 1893 годзе ў гонар Святой Тройцы, гэты дзень з'яўляецца яго прастольным святам. І падставай добра пагуляць для вяскоўцаў.

На гэты раз свята было скрываўлена...

У ноч з 4 на 5 чэрвеня каля мясцовага Дома культуры, дзе працягваліся гулянні з нагоды свята, адбылася трагедыя. У выніку сутычкі мясцовых жыхароў з гасцямі з Бярозаўскага раёна забіты 20-гадовы жыхар вёскі Аздамічы, яшчэ трое апынуліся ў шпіталі з раненнямі рознай ступені цяжкасці, адзін з удзельнікаў бойкі з боку гасцей налажыў на сябе рукі.

Мясцовыя жыхары ў адзін голас паўтараюць: прыезджыя, узброеныя не тое адвёрткамі, не тое нажамі, напалі першымі і без дай прычыны. Падрабязнасці здарэння распавяла "Народнай Волі" маці аднаго з пацярпелых. Той знаходзіўся ў адной машыне з забітым пасля Іванам і некалькімі сябрамі. Але, убачыўшы нажы ў руках "гасцей", уцёк. Таму і абышоўся спалохам і падранай вопраткай.

*"Сёмуха ў нас прастольнае свята. Тры дні гуляем. Так было і так будзе. Танцы ў клубе, выпіўка... Пайшоў туды і мой сын. Усе ідуць, дык і ён пайшоў. Узяў з сабой машыну. Ну, думаю, калі машыну ўзяў, напівацца не стане. Яны і не пілі. Іх правяралі потым — цвярозыя ўсе. Сядзелі ў машыне, музыку слухалі, лузалі семкі. Ноччу, прыкладна ў дваццаць хвілін на трэцюю, тэлефануе мне на мабільны: "Мама, выклікай якую-небудзь міліцыю! Прыехалі нейкія прыдуркі, мне машыну пабілі, Гене машыну пабілі, Ваньку парэзалі!" Я туды прыбягаю — наша машына стаіць пабітая, іншага хлопца — пабітая... У адной машыне нейкі мадулятар знялі, у другой магнітолу. А хто зняў — невядома. Напэўна, тыя, прыезджыя. А Ванечка памёр потым..."*

Інтэрнэт-выданні распаўсюдзілі інфармацыю, што ў прыезджых нібыта былі камерцыйныя інтарэсы ў вёсцы Аздамічы. *"Ды не, тут у аднаго з іх стрыечная сястра жыве, яны да яе і прыехалі,* — кажа мая суразмоўца. — *Хоць, калі магнітолы з машыны зніклі, то, можа, і камерсанты".*

Жанчыну нам удалося разгаварыць з цяжкасцю: *"А вы сапраўды з газеты?.. Зараз нікому нельга верыць, такі свет стаў... Баюся, як бы хто не прыйшоў ды і не дабіў мяне ў гэтай хаце".*

Жанчына напрамілы бог маліла не называць яе прозвішча. Пыталася ў мяне — як у "пісьменнага", што такое "жучок". Аднавяскоўкі яе напалохалі, што ў хату паставілі "жучкі". "Воно толькі чуе ці бача, што я тут раблю? Дакладна не бача?" — настойліва дапытвалася жанчына мясцовай гаворкай.

Страх, які на першы погляд можа падацца крыху камічным, мае пад сабой незвычайную падаплёку. Сямнаццаць гадоў таму, улетку 1995 года, як распавяла наша суразмоўца, у гэтай жа вёсцы забілі бацьку загінуўшага 4 чэрвеня Івана і яе ўласнага брата. Тады адна праўладная газета надрукавала матэрыял, у якім быццам бы дала няслушныя звесткі, усклаўшы віну на забітага.

*"Бандыты ў іх заўсёды маюць рацыю, за іх заступаюцца, а мы потым крайнімі застаемся... Баюся, каб майго сына яшчэ і ў турму не пасадзілі цяпер",* — апасаецца жанчына.

Сам малады чалавек, калі мы яму датэлефанаваліся, даваць якія-небудзь каментарыі адмовіўся, рэзка абарваўшы гутарку.

У сям'і загінуўшага трубку зняла заплаканая дзяўчына — папрасілаператэлефанаваць, калі з могілак вернуцца старэйшыя. Але ў названы час і пазней да тэлефона ўжо ніхто не падыходзіў.

Нагадаем, што гэта не першая трагедыя, якая ўзрушыла Столінскі раён. У ноч на 1 студзеня 2012 года зусім побач з Аздамічамі, у вёсцы Лядзец, была жорстка забіта 13-гадовая Юля Ляшук.

**Дзмітрый ГАЛКО.**

ДИКОСТЬ!

## 17 лет за убийство матери

*35-летнего жителя деревни Бояры Пинского района приговорили к 17 годам лишения свободы за убийство матери.*

Как сообщила БелаПАН старший прокурор отдела прокуратуры Брестской области Дарья Жук, поддерживавшая государственное обвинение по делу, преступление было совершено вечером 2 января в доме, где обвиняемый проживал вместе со своей 70-летней матерью и ее сожителем.

В момент убийства мать и сын были дома вдвоем. Женщина начала выговаривать сыну, что тот злоупотребляет спиртными напитками, и на этой почве между ними возникла ссора.

Находившийся в состоянии алкогольного опьянения мужчина нанес матери не менее 17 ударов двумя кухонными ножами в область грудной клетки, живота и шеи. От полученных телесных повреждений женщина скончалась на месте. Сотрудники милиции задержали убийцу на месте преступления.

...Приговор еще не вступил в законную силу и может быть обжалован.

